16 жніўня 2019 | № 30 (641)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Чалавек, каньяк і торт**
Стар. 9



# Нацыянальная катастрофа на тле мяккай беларусізацыі

**Сёлета ў першы клас пойдуць каля 115 тысяч дзяцей. Колькі з іх будуць вучыцца па-беларуску?**



Дзіяна СЕРАДЗЮК

Мінулы навучальны год пабіў сумны антырэкорд па колькасці беларускамоўных першакласнікаў: упершыню ў Беларусі іх стала менш за 10%. Летась па-беларуску займаліся толькі 9,7% вучняў першых класаў.

Статыстыка сведчыць, што гэтая лічба скарачаецца штогод. Калі ў 2009 годзе беларускамоўных першаклашак было 16,7%, то ў 2014/2015 навучальным годзе — ужо 12,1%. Калі тэндэнцыя працягнецца, то праз нейкіх 10 гадоў на беларускамоўнай школе ў Беларусі можна будзе паставіць крыж.

Адсутнасць магчымасці паўнавартасна вучыцца на роднай мове — перадусім, вынік дзяржаўнай палітыкі, якую ўжо чвэрць стагоддзя мэтанакіравана праводзіць Лукашэнка. Нягледзячы на фармальную роўнасць дзвюх дзяржаўных моваў і замацаванае ў Канстытуцыі права атрымліваць адукацыю па-беларуску, з 1995 да 2006 года доля беларускамоўных школьнікаў скарацілася з больш чым 40% да 22%. Адметна, што менавіта столькі — 22% — вучняў атрымлівалі адукацыю па-беларуску ў часы СССР. Але тады ў многім сітуацыю ратавала вёска, якая і вучылася, і размаўляла на тутэйшай мове. Цяпер жа ў сельскай мясцовасці беларускамоўных школ амаль не засталося, а насельніцтва, калі не лічыць людзей сталага веку, гаворыць спрэс па-руску ці на трасянцы.

Разам з беларускамоўнымі школамі і класамі знікаюць і беларускамоўныя плыні ў ВНУ. Цяпер яны засталіся хіба што на філфаках ды гістфаках, і тое не паўсюль. Прыватныя ўстановы адукацыі таксама не спраўляюцца з цяжарам прышчаплення нацыянальных каштоўнасцяў. Ні для каго не сакрэт, што галоўны «беларускі ўніверсітэт у выгнанні» — ЕГУ — паступова робіцца ўсё больш русіфікаваным.

Новастворашы Нацыянальны ўніверсітэт імя Ніла Гілевіча, які асноўнай сваёй місіяй бачыць адукацыю на беларускай мове, толькі сёлета ў ліпені падаў у Міністэрства адукацыі дакументы на атрыманне ліцэнзіі, таму, калі ўстанова зможа прыступіць да ажыццяўлення сваёй мэты, прагназаваць складана. Яшчэ навіна: літаральна днямі палітык Аляксандр Мілінкевіч зарэгістраваў у Польшчы беларуска- і англамоўны «Вольны беларускі ўніверсітэт», але і гэта, па яго словах, не столькі ўстанова адукацыі, колькі апаратар, які дапаможа еўрапейскім універсітэтам выйсці на беларускі рынак навучання.

Дый што казаць пра ўніверсітэты, калі нават на ўзроўні дзіцячых садкоў беларуская мова — праблема. Праз што толькі ні даводзіцца праходзіць бацькам, для якіх важна, каб іх малечы маглі засвойваць родную мову ад самага ранняга дзяцінства! Пісаць заявы, збіраць подпісы, шукаць аднадумцаў па ўсім горадзе, абіваць парогі чыноўніцкіх кабінетаў — і ўсё гэта пры, здавалася б, гарантаваным праве атрымліваць паслугі па-беларуску.

Аднак нават калі бацькам удаецца дамагчыся адкрыцця беларускамоўнай групы ў садку, ніхто не можа даць гарантыі, што выхавацелі будуць рабіць



Фота www.belsat.eu

**Якую свядомасць фармуе ў дзяцей сучасная школа, страшна нават уявіць**

сваю справу якасна. Нядаўна сяброўка — маладая маці, якая аддала свайго трохгадовага сына ў падобную групу ў адным са сталічных садкоў, — распавяла, што беларускамоўным такое выхаванне можна назваць хіба што з вялікай нацяжкай.

Што праўда, існуюць яшчэ варыянты прыватных беларускамоўных садкоў, дзе да роднай мовы падыходзяць больш асэнсавана і адказна. Але ці кожная сям’я зможа штомесяц выдаткоўваць па 500 еўра на аплату садка для свайго дзіцяці? А калі дзіця не адно?

Вось і атрымліваецца, што беларускамоўная адукацыя нібыта прысутнічае на ўсіх яе ступенях і ў розных формах (нагода для чыноўнікаў казаць пра неперарыўнасць і разнастайнасць навучання па-беларуску!), але, па сутнасці, яе няма.

Цікава, што зніжэнне колькасці беларускамоўных школьнікаў адбываецца падчас піку беларускасці ў навакольным асяроддзі. Усё не спадае бум на вышыванкі, у аздабленні грамадскай прасторы працягваюць з’яўляцца арнаменты, расце колькасць беларускамоўнай рэкламы, на ўздыме папулярнасці тавары і паслугі з нацыянальным каларытам.

Але, калі задумацца, то вядуць рэй у гэтай справе «мяккай беларусізацыі» людзі ўзросту 30+, якія яшчэ памятаюць беларускамоўныя школы, дзяржаўны герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг. Нацыянальная свядомасць пачала фарміравацца ў іх у тыя самыя, яшчэ не спляжаныя Лукашэнкам часы Адраджэння. А якую свядомасць фарміруе ў дзяцей сучасная школа, страшна нават уявіць. І спадзяванняў на тое, што пакаленне сённяшніх першакласнікаў зможа адбудаваць незалежнасць Беларусі на падмурку нацыянальных каштоўнасцяў, на жаль, няма.

А на якой мове вучацца вашыя дзеці?

# Справа Зміцера Паліенкі паступіла ў Мінгарсуд

**Праваабаронцам «Вясны» стала вядома, што пракуратура горада Мінска накіравала крымінальную справу актывіста Дзмітрыя Паліенкі ў Мінскі гарадскі суд. Меркавана, разгляд справы Паліенкі пачнецца ў верасні.**

Гэта значыць, што рашэнне па крымінальнай справе, якая паступіла ў суд, згодна з арт. 276 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, мусіць быць прынятае цягам месяца. Меркавана, разгляд справы Паліенкі пачнецца ў верасні.

На дадзены момант Паліенку прад'яўлена абвінавачванне па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса: арт. 341 (псаванне маёмасці ў грамадскім месцы), ч. 1 арт. 130 (распальванне іншай сацыяльнай варожасці або розні па прыкмеце сацыяльнай прыналежнасці), арт. 369 (публічная абраза прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў) і ч. 3 арт. 339 (асабліва злоснае хуліганства). На дадзены момант Дзмітрый Паліенка знаходзіцца ў СІЗА-1 на Валадарскага, дзе, хутчэй за ўсё, застанецца да суда.

На думку праваабаронцаў, падставы для прыцягнення да адказнасці Дзмітрыя Паліенкі ў дадзеным выпадку выглядаюць вельмі сумнеўна.

«Дыфамацыйны 369 артыкул Крымінальнага кодэкса даўно выклікае негатыўныя ацэнкі праваабарончай супольнасці. Вызначэнне міліцыянтаў як сацыяльнай групы ў межах абвінавачвання па артыкулу 130 КК таксама з пункту гледжання міжнародных экспертаў і праваабаронцаў з'яўляецца памылковым. Больш дэталёвы аналіз абвінавачвання можна будзе зрабіць толькі падчас разгляду справы ў судзе. Цяпер занадта мала інфармацыі», — распавёў юрыст «Вясны» Алег Пашкевіч.

Судовае разбіральніцтва па справе Дзмітрыя Паліенкі, фактычна, будзе праходзіць падчас выбарчай кампаніі.

«Беларускія ўлады чарговым разам заяўляюць, што выбарчая кампанія будзе дэмакратычнай і адпавядаць міжнародным стандартам свабодных выбараў. Але свабодныя і дэмакратычныя выбары — гэта не толькі працэс апускання бюлетэняў у скрыню ці іх падлік. Гэта, у тым ліку, атмасфера, у якой праходзяць выбары. Павінна гарантавацца свабода выказвання меркаванняў без страха пакарання людзей за іх погляды», — дадаў юрыст «Вясны».

У праваабаронцаў ёсць апасенні, што судовы працэс па справе Паліенкі могуць правесці ў закрытым рэжыме. Але, як адзначае Алег Пашкевіч, калі ўлады ўсё ж такі зробяць судовы працэс па гэтай справе адкрытым, то гэта, у тым ліку, можа стаць добрым сігналам аб тым, што ў дзяржаве адбываюцца дэмакратычныя працэсы.

Нагадаем, Дзмітрый Паліенка быў затрыманы 20 сакавіка па падазрэнні ў здзяйсненні асабліва злоснага хуліганства (арт. 339 КК). Яго абвінавачваюць у тым, што ён распыліў газавы балончык у твар мужчыну, які зрабіў яму заўвагу за курэнне на лесвічнай пляцоўцы. 5 красавіка Паліенку было прад'яўленае абвінавачванне па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса: ч. 3 арт. 339, арт. 341 і ч. 1 арт. 130. Абвінавачванне па арт. 341 КК Паліенку прад'яўлена за нанясенне графіці на будынак на вуліцы Ахоцкай.

2 ліпеня Следчы камітэт паведаміў, што расследаванне крымінальнай справы Дзмітрыя Паліенкі завершанае, і яна перададзеная ў пракуратуру для накіравання ў суд. Але пракуратура Мінска вярнула справу Зміцера Паліенкі для правядзення дадатковага папярэдняга расследавання.

**spring96.org**

# Савостава аплаціць палову кошту медэкспертызы Кулакова

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Такое рашэнне прыняла 12 жніўня суддзя Першамайскага суда Мінска Наталля Петух.**

Нагадаем, 30 ліпеня завяршыўся разгляд справы па іску актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Леаніда Кулакова да Златы Савоставай, якая 27 чэрвеня 2018 года каля рэстарана «Поедем поедим» на аўтамабілі, што належаў яе маці, наехала на Кулакова і пашкодзіла яму руку. Тады суддзя Наталля Петух пастанавіла спагнаць з маці адказчыцы Святланы Савоставай маральную кампенсацыю ў памеры 500 рублёў, 34 рублі 93 капейкі за экспертызу, а таксама 76 рублёў 50 капеек дзяржпошліны.

Пасля таго пасяджэння актывіст напісаў заяву, у якой запатрабаваў спагнаць з адказчыцы грошы за правядзенне медыцынскай экспертызы, сродкі на якую збіралі талакой. Экспертыза павінна была даць канчатковы адказ, ці быў у Кулакова пералом рукі ў выніку наезду, але па сутнасці ўнесла яшчэ большую блытаніну: эксперт указаў у дакуменце пашкоджанне плечавой косткі, хаця пашкоджана была лучавая.

12 жніўня суддзя прыняла рашэнне: кошт экспертызы — 1870 рублёў — Кулакоў і Савостава аплацяць напалам, гэта значыць, па 935 рублёў кожны.

Леанід Кулакоў з рашэннем суда не згодны, ён лічыць, што Святлана Савостава павінна кампенсаваць увесь кошт экспертызы. Апроч таго ён плануе ў судзе дамагацца пазбаўлення Златы Савоставай правоў кіроўцы.

«Калі б іншы кіроўца збіў чалавека і з'ехаў з месца ДТЗ, яго б адразу пазбавілі правоў. А ўдзельнікаў Варты ў Курапатах можна даўно — і застаецца беспакараным», — адзначыў актывіст.

Кулакоў мае намер прыцягнуць да адказнасці і эксперта, якія далі лжывыя заключэнні аб стане яго здароўя.

Актывіст выказвае падзяку прафсаюзу РЭП і асабіста Генадзю Фядыніч, які дапамагае яму адстойваць яго правы.

# Пяць фактаў пра беларускага палітвязня Міхаіла Жамчужнага

**Беларускаму палітычнаму зняволенаму Міхаілу Жамчужнаму 14 жніўня споўнілася 64 гады. Чарговы Дзень народзінаў ён правёў у месцах пазбаўлення волі. Больш за тое, праваабаронцам вядома, што цяпер ён знаходзіцца ў памяшканні камернага тыпу ў папраўчай калоніі ў горадзе Горкі.**

«Вясна» ў Дзень Нарадзінаў палітвязня Міхаіла Жамчужнага прапануе ўспомніць пяць фактаў з яго жыцця.

## 1. Міхаіл Жамчужны — навуковец

Да таго, як Міхаіл Жамчужны стаў займацца праваабарончай дзейнасцю, ён працаваў у Віцебскім тэхналагічным універсітэце. Там кіраваў лабараторыяй, дзе займаўся праблемамі прамысловага вырабу вадароду. Міхаіл за час працы ва ўніверсітэце стаў кандыдатам тэхнічных навук і аўтарам некалькіх навуковых манаграфій і распрацовак.

Міхаіл Жамчужны першы ў краіне зарэгістраваў самаробны аўтамабіль на альтэрнатыўным паліве. Пра яго гаварылі так: таленавіты вучоны, не зангажаваны ў палітычную дзейнасць.

Нават у месцах пазбаўлення волі ён працягвае займацца навуковай дзейнасцю. У апошнім жнівеньскім лісце віцебскім праваабаронцам Міхаіл паведаміў, што завяршыў працу над манаграфіяй па тэме імпульснай плазмы і ў галіне новых метадаў палёту апаратаў цяжэйшых за паветра з гнуткім крылом. «Гэта новыя і прарыўныя дасягненні высокага ўзроўню», — паведамляе навуковец.

## 2. Кінуў працу праз несправядлівасць у дачыненні да сваіх правоў

У 2006 годзе навуковымі распрацоўкамі і дзейнасцю навукоўца нечакана зацікавіўся КДБ. Супраць кіраўніка лабараторыі распачалі крымінальную справу. Міхаілу прапанавалі супрацоўнічаць з КДБ: даць паказанні супраць начальства. Але ён адмовіўся. У 2007 годзе яго асудзілі на 5 гадоў пазбаўлення волі па артыкуле 210 Крымінальнага кодэкса «Крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі».

Пасля суда Міхаіл Жамчужны спрабаваў абскардзіць свой прысуд, аднак гэта не прывяло ні да якіх вынікаў. Пасля вызвалення ў 2012 годзе Міхаіл прынцыпова не вярнуўся ва ўніверсітэт. Ён не хацеў вяртацца ў месца, дзе яго абвінавацілі і зрадзілі яму.

Міхаіл вырашыў заняцца праваабарончай дзейнасцю ў сферы правоў зняволеных. Ён стаў сябрам арганізацыі «Платформа», дзе займаўся зборам інфармацыі пра сітуацыю ў месцах зняволення. Пасля ліквідацыі «Платформы» стаў сузаснавальнікам новай арганізацыі «Платформ Інавэйшн».

## 3. Другі турэмны тэрмін атрымаў за раскрыццё звестак, што складаюць службовую тайну

Міхаіла Жамчужнага арыштавалі праз тыдзень пасля абвяшчэння прысуду ў дачыненні да дырэктара ЧКПУ «Платформ Інавэйшн» Андрэя Бандарэнкі. Падрабязнасці пра абставіны крымінальнай справы супраць Міхаіла Жамчужнага не выдаюцца. Адвакат адмовіўся ад кантактаў, матывуючы гэта падпіскай пра неразгалошванне звестак.

10 ліпеня 2015 года Віцебскі абласны суд прызнаў яго вінаватым па артыкулах 376 (ч. 1, ч. 2), 375 (ч. 1) і 431 (ч. 1, ч. 2) КК (наўмыснае раскрыццё звестак, якія складаюць службовую тайну; незаконнае набыццё (выраб) сродкаў для сакрэтнага атрымання інфармацыі, што складае службовую тайну; дача хабару). Міхаіла Жамчужнага прысудзілі да шасці гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму.

## 4. Абскарджваючы прысуд суда, Жамчужны атрымаў больш строгае пакаранне

Міхаіл Жамчужны, нязгодны з прысудам Віцебскага абласнога суда, падаў скаргу ў Вярхоўны суд. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу, але прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне — шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Міхаіл Жамчужны ўжо адбыў большую палову тэрміну. На волю ён павінен выйсці ў студзені 2022 года.

## 5. Беларускімі праваабаронцамі Міхаіл Жамчужны прызнаны палітычным зняволеным

Беларускія праваабарончыя арганізацыі прызналі Міхаіла Жамчужнага палітычным зняволеным у адпаведнасці з Кіраўніцтвам па вызначэнні паняцця «Палітычны вязень».

Пад тэкстам заявы падпісаліся старшыня праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі, старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта Алег Гулак, старшыня праўлення Цэнтра прававой трансфармацыі (Lawtrend) Алена Танкачова, кіраўнік камітэта дапамогі рэпрэсаваным «Салідарнасць» Іна Кулей, кіраўніца Беларускага дакументацыйнага цэнтра Раіса Міхайлоўская, прэзідэнтка Беларускага дома правоў чалавека імя Барыса Звозскава Таццяна Равяка і экс-старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна.

**spring96.org**

# «Залез на дрэва і крычаў "Жыве Беларусь!"»

**На непаўнагадовага актывіста Іларыёна Трусава склалі пратакол па артыкуле 17.1 КаАП («дробнае хуліганства»). Як паведаміў сам хлопец, выпадак, пра які ідзе гутарка ў пратаколе, адбыўся яшчэ 31 траўня.**

«31.05.19 у 19:50 Трусаў І.А, знаходзячыся ў грамадскім месцы блізу вул. Любімава г. Мінск, наўмысна залазіў на дрэва, намагаўся вывесіць сцяг з выявай "Пагоні", гучна крычаў "Жыве Беларусь!", на заўвагі не рэагаваў, то-бок учыніў наўмыснае дзеянне, парушаючае грамадскі парадак і спакой грамадзянаў, і праявіў знявагу да грамадства», — напісана ў пратаколе.

Па словах Іларыёна, амаль усё напісанае — хлусня. Так, ён сапраўды залазіў на дрэва, аднак злез адтуль па першым патрабаванні міліцыі. Сцяг знаходзіўся ў яго заплечніку, аднак думак, каб яго вывесіць, у хлопца не было. Таксама ён кажа, што не крычаў: «Жыве Беларусь!».

Іларыён мае намер абскардзіць складзены з відавочнымі памылкамі пратакол.

Гэта ўжо шосты адміністрацыйны пратакол, складзены на Іларыёна Трусава з пачатку 2019 года (за выключэннем пратаколаў ДАІ за Варту ў Курапатах). Усе пяць папярэдніх датычыліся рэалізацыі права на свабоду мірных сходаў. Тры разы адміністрацыйныя справы разглядала камісія па справах непаўнагадовых і ў выніку выносіла папярэджанні. Адзін раз штраф у 50 базавых (1275 рублёў) атрымалі бацькі Іларыёна пасля яго ўдзелу ў малітве за Курапаты.

**spring96.org**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Забранзавелі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У аўтарытарных сістэмах на кіроўную пасаду прыходзіць, як правіла, «чалавек ад народа». Але чым даўжэй ён знаходзіцца на пасадзе, тым больш ён «бранзавее» — звужаецца далягляд, ён ужо не кантактуе з народам, неадэкватна ацэньвае сітуацыю, рэагуе толькі на тое, што яму «пакладуць на стол». І ў выніку саступае сваё месца новаму «чалавеку ад народа».**



Фота www.абажур-журнал.рф

Аляксандр Рыгоравіч ва ўладзе ўжо 25 гадоў, і, падаецца, ведае толькі тое, што яму «пакладуць на стол». Гэтым разам яму паклалі «кейс Галавача» — галоўнага інжынера МЗКЦ, якога чатыры гады трымалі ў СІЗА, але віны так і не даказалі. І кіраўнік краіны ў час рабочай сустрэчы са старшынёй Следчага камітэта Іванам Наскевічам заявіў, што бліжэйшым часам правядзе нараду з праваахоўным блокам краіны.

«Вы вялі следчыя дзеянні чатыры з лішнім гады і так нічога ў судзе не даказалі, — абрынуўся Лукашэнка на Наскевіча. — Я не разумею, як можна затрымаць чалавека, пасадзіць яго ў следчы ізалятар і трымаць яго ў чатырох сцянах чатыры гады? Трымаць гэтага чалавека і потым за недаказанасцю адпусціць».

«Я з генеральным пракурорам буду разбірацца, чаму ён так «наглядае» за крымінальнымі справамі і за выкананнем закона», — падкрэсліў кіраўнік краіны.

З цытатаў, прыведзеных БелТА, выглядае, нібыта Аляксандр Рыгоравіч абурыўся не тым, што чалавека трымалі чатыры гады ў зняволенні, а тым, што яго віну так і не здолелі даказаць. Калі гэта сапраўды так, то ніякіх пытанняў не ўзнікае. Але, калі наш правадыр усур'ёз заклапаціўся «зацягваннем следчых дзеянняў», то пачынаць яму трэба не з генпракурора.

Айчынныя праваабаронцы ўжо не першую пяцігодку ўздымаюць пытанне пра неабгрунтаванае ўтрыманне грамадзянаў у СІЗА з пазбаўленнем іх (да вынясення прысуду!) волі і пэўных правоў. «Новы Час» таксама перапісваўся з СІЗА №1 з нагоды таго, што людзям, якія там знаходзяцца, абмяжоўваюць права на перапіску і атрыманне інфармацыі — хаця яны яшчэ не асуджаныя. Таксама неаднаразова ўздымалася пытанне і пра артыкул 411 Крымінальнага кодэкса, па якім чалавека можна трымаць у зняволенні бясконца.

Але кіраўніку краіны пра гэта «не давялі». А змены ў законы ў нас прымаюцца залежным ад Лукашэнкі заканадаўчым органам, і адмяніць той жа 411 артыкул КК альбо вызначыць гранічны тэрмін знаходжання чалавека пад вартай да суда — гэта вырашаецца проста «даручэннем Лукашэнкі дэпутатам».

Як і тое, што не з генпракурорам трэба размаўляць наконт «зацягвання следства», а, зноў жа, з падкантрольнымі судамі. Бо суддзі, якія працуюць «у спайцы» са следствам, неаднаразова адхілялі хадайніцтвы таго ж Галавача пра змену меры стрымання са знаходжання ў СІЗА на падпіску пра нявыезд. Варта толькі даць даручэнне пра пашырэнне «практыкі падпіскі» — і праблема была б вырашаная.

А яшчэ сам спадар Наскевіч павінен быў атрымаць глабальны ўтык аж да пазбаўлення пасады. Таму што «справа Галавача» — гэта яшчэ і справа яго адвакаткі, на якую, за разгалошванне матэрыялаў следства, а потым і, нібыта, за захоўванне зброі, завялі крымінальныя справы. А пазней іх спынілі «за адсутнасцю складу злачынства».

І калі па першым эпізодзе яшчэ можна знайсці нейкую логіку, то адмена пастановы аб узбуджэнні крымінальнай справы за незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў выклікае пытанні. Бо тут ужо — альбо знайшлі ў яе зброю, альбо не. Калі яна сапраўды захоўвала зброю, то падставы спыняць справу няма. А калі не — то ў ведамстве Наскевіча павінен быў адбыцца вялікі скандал з узбуджэннем іншых крымінальных спраў — за фальсіфікацыю доказаў, падкідванне зброі, наўмысна лжывае абвінавачванне і гэтак далей.

**Лета — традыцыйны час для запавольвання інфляцыі. Таннеюць прадукты, людзі менш спажываюць. Таму інфляцыя павінная быць меншая, а не большая**

Што-небудзь мы пра гэта чулі? Не. Не толькі яго ведамства, але і сам Наскевіч «умыліся» і зрабілі выгляд, што нічога не здарылася. Падумаеш: зброю адвакату падкінулі! Не яна першая, і не яна апошняя!

А Следчы камітэт — гэта рэформа, праведзеная з ініцыятывы Аляксандра Лукашэнкі. І адказваць за СК, атрымліваецца, павінен таксама ён.

А пакуль кіраўніцтва разбіраецца з сілавікамі, у яго няма часу на вырашэнне іншых, пакуль яшчэ не спешных, але ў перспектыве — вельмі балючых задач. Справа ў тым, што «летняя» гадавая інфляцыя склала 6%, у той час як па прагнозе яна павінна быць не больш за 5%.

Гэта трывожна найперш таму, што лета — традыцыйны час для запавольвання інфляцыі. Таннеюць прадукты, людзі раз'язджаюцца па адпачынках і лецішчах, менш спажываюць. А таму інфляцыя павінная быць меншая, а не большая.

Цяпер не так. Паводле звестак, галоўным чынам на летнюю інфляцыю паўплывала падаражэнне мабільнай сувязі — у сярэднім на 3,72%. Але асноўныя гульцы рынку — МТС і А1 — уключаныя ў рэестр манапалістаў. Таму яны могуць павышаць свае тарыфы толькі са згоды Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю. Відавочна, што МАРГ такую згоду даў, таму ўлады самі апынуліся творцамі росту коштаў у эканоміцы.

Але, калі глядзець на паўгадавыя паказчыкі, то атрымліваецца дзіўная рэч. За паўгода на 9–11% выраслі цэны на... сацыяльна значныя прадукты харчавання! Пры гэтым кошт сацыяльных тавараў і паслуг таксама кантралююць органы ўлады. Амаль усе пазіцыі ў гэтым спісе займаюць прадукты харчавання — гэта хлеб, мяса, яйкі, малако, соль і іншыя.

Пры гэтым рост цэнаў на гэтыя тавары па некаторых пазіцыях амаль у два разы перавышае агульны ўзровень цэнаў, што і выклікала занепакоенасць у тым жа МАРГ. Высвятляецца, што цэны растуць не за кошт вытворцы, а за кошт гандлёвых надбавак у крамах.

Чыноўнікі сустрэліся з прадстаўнікамі гандлю і пагразілі ім пальчыкам, патлумачыўшы, якой павінна быць надбаўка. І заявілі, што, калі «парадку» не будзе, то МАРГ разгледзіць пытанне аб увядзенні часовага цэнавага рэгулявання на сацыяльна значныя тавары.

Можа быць, хутка мы і адчуем зніжэнне цэнаў, але наўрад ці. Інакш нашым «забранзавелым» не будзе чым давесці сваю патрэбнасць у будучыні.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Раман Бязсмертны



**Былы пасол Украіны ў Беларусі больш не з'яўляецца прадстаўніком Украіны ў рабочай падгрупе па палітычных пытаннях Трохбаковай кантактнай групы. Яго вызвалiў ад гэтых абавязкаў новы кіраўнік Украіны Уладзімір Зяленскі.**

Зяленскі ўпаўнаважыў Рамана Бязсмертнага прадстаўляць Украіну ў рабочай падгрупе па палітычных пытаннях Трохбаковай кантактнай групы замест Аляксандра Моціка 9 ліпеня 2019 года і звольніў праз 5 тыдняў.

Пры гэтым Бязсмертны даведаўся пра сваё звальненне праз СМІ.

У 2015 годзе Раман Бязсмертны быў прызначаны прадстаўніком Украіны ў палітычнай падгрупе ТКГ. У красавіку 2016 года выйшаў з Мінскага працэсу.

### Ігар Марзалюк



**Актывіст Аляксандр Хамратаў хоча прыцягнуць дэпутата Палаты прадстаўнікоў да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.**

Марзалюк, гендырэктар ЗАТ «Ціс-Магмет» Валер Гусарэвіч і некалькі чалавек сталага ўзросту 6 траўня 2019 года ўрачыста адкрылі парэнчы ў парку ў раёне вуліцы 30-ці гадоў Перамогі.

Аляксандр Хамратаў звярнуў увагу, што падчас мерапрыемства адсутнічалі супрацоўнікі міліцыі, хуткай дапамогі і МНС. Ён звярнуўся ў Ленінскі РАУС Магілёва з просьбай правесці праверку ў дачыненні да Марзалюка і пачаць адміністрацыйны працэс за парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.

Міліцыя адмовіла, спаслаўшыся на «адсутнасць складу адміністрацыйнага правапарушэння». Хамратаў абскардзіў адказ міліцыі ў судзе Ленінскага раёна Магілёва. Суддзя Ігар Шведаў пацвердзіў, што міліцыя не мае рацыі: не быў устаноўлены статус мерапрыемства, а ў міліцэйскай пастанове ўтрымліваліся памылкі.

Суд адправіў матэрыялы справы на дапрацоўку. Хамратаву, як заяўніку, павінна была прыйсці паўторная пастанова з Ленінскага РАУС. Пасля месяца чакання актывіст звярнуўся ва УУС Магілёўскага аблвыканкама, каб даведацца, чаму ж міліцыя не рэагуе на рашэнне суда і яго скаргу. Намеснік начальніка УУС Уладзімір Рыжанкоў заявіў, што Ленінскі РАУС не павінен быў высылаць пастанову па скарзе, паколькі Хамратаў — усяго толькі сведка.

«Я ацэньваю адказ спадара Рыжанкова як палітычна матываваны. У першым выпадку мне далі і саму пастанову, і суправаджальны ліст з адказам. Зараз жа нічога не даслалі, ды яшчэ і зацягнулі тэрміны, каб я не мог абскардзіць іх дзеянні», — пракаментаваў сітуацыю Хамратаў. Ён мае намер звярнуцца ў МУС, каб дамагчыся справядлівасці.

Акрамя таго, міліцыя і ў другі раз не знайшла віны Марзалюка. Маўляў, гэта была «сустрэча дэпутата з выбаршчыкамі», якая, нібыта, не з'яўляецца масавым мерапрыемствам.

### Меліціна Станюта



**Са знакамітай гімнасткай здарылася дзіўная гісторыя. Міліцыянерка не прапусціла Меліціну на вуліцу, якая названая ў гонар яе прабабулі — знакамітай культавай акцёркі Стэфаніі Станюты.**

Пра гэта гімнастка напісала ў сваім інстаграме. «У Мінску ёсць вуліца імя Стэфаніі Станюты. Але прагуляцца мне па ёй аказалася вельмі праблематычна. На ўваходзе на гэтую вуліцу за плотам міліцыянт адправіла мяне па дазвол на шлагбаум па гэтай вуліцы ў «Дана мол», спасылаючыся на тое, што там ідзе нейкая будоўля. «Інакш вас забяруць», былі яе словы. Патэлефанавала ў кантакт-цэнтр «Дана мол» з гэтай просьбай (пусціць пагуляць). Там здзівіліся і накіравалі ў аддзел продажаў. Там таксама здзівіліся, сышлі думаць і павесілі слухаўку. Як праўнучцы і ўнуку прайсціся па вуліцы прабабулі?» — задаецца пытаннем гімнастка.

Вуліца знаходзіцца на ўскраіку Мінска на тэрыторыі катэджнага пасёлка сербскай кампаніі «Дана». Побач з Цнянскім вадасховішчам сербскі інвестар пабудаваў 14 катэджаў, якія ў свабодны продаж не паступалі. Пад'езд да іх атрымаў назву «вуліца Стэфаніі Станюты». Хто жыве ў гэтых элітных катэджах, пакуль невядома.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Як адзін аграрый забяспечыў працай восем гараджан

**«Бог памёр», — абвясціў свету ў 1882 годзе нямецкі філосаф Фрыдрых Ніцшэ. Аднак атэістам радавацца рана, бо поўная цытата класіка падставы для аптымізму актыўным змагарам з рэлігіяй не давала. Цытую: «Бог памёр: але такая прырода людзей, што яшчэ тысячагоддзямі, магчыма, будуць існаваць пячоры, у якіх паказваюць яго цень. — І мы — мы павінны перамагчы яшчэ і яго цень!»**




Ніцшэ, калі казаў пра смерць Бога, зразумела, меў на ўвазе Бога Старога і Новага Запавету. Яго смерць у эпоху індустрыялізацыі была заканамерная, бо міфалогія ды рытуалы іудаізму і хрысціянства выбудоўваліся вакол адносін паміж людзьмі, якія спецыялізуюцца на акультурванні раслін і прыручэнні жывёл.

На побытавым узроўні патрэба рэлігіі часта тлумачыцца страхам смерці. Але не ўсё, што ляжыць на паверхні, здольнае выстаяць перад крытычным мысленнем. Запазычу ўзор такога мыслення ў гісторыка Ювала Харары: «У старажытных аграрных грамадствах многія рэлігіі праяўлялі надзіва мала цікаўнасці да метафізічных пытанняў і замагільнага жыцця. Яны засяроджваліся на вельмі зямным — сельскагаспадарчым дабрабыце. Так, напрыклад, Бог са Старога Запавету ніколі не абяцае ніякіх узнагародаў або караў пасля смерці. Замест гэтага ён кажа народу Ізраіля: "Калі будзеце слухаць запаведзі Мае... то дам зямлі вашай дажджы ў свой час... і ты збярэш хлеб твой і віно тваё, і алей твой. І дам траву на полі тваім быдлу тваійму; і будзеш есці і атрымліваць асалоду"».

### Інфармацыя кіруе светам

У Беларусі колькасць гарадскога насельніцтва стала большая за вясковую ў 1975 годзе. Аднак колькасць нідзе і ніколі аўтаматычна не пераходзіла ў якасць. Таму кожны год мы робімся сведкамі «бітвы за ўраджай», якую аграры вядуць пад кіраўніцтвам уладнай «вертыкалі», сфарміраванай з гараджан у першым і другім пакаленнях. І нікога не здзіўляе, што мэтай бітвы з'яўляецца не прыбытак працаўнікоў вёскі, а «харчовая бяспека» дзяржавы.

Свой унёсак у канчатковы вынік робяць і шматлікія кантралёры. «Кантраляваць гэта — адна з функцый міліцыі, КДК, пракуратуры», — у чарговы раз нагадаў адзіны палітык (АП) удзельнікам селектарнай нарады па пытаннях уборкі ўраджаю 23 ліпеня.

Спадзяюся, сярод маіх чытачоў нямала тых, каму ў маладосці пашчасціла вывучаць марксізм-ленінізм. Для астатніх жа прывяду цытату з кнігі Леніна «Дзяржава і рэвалюцыя» (1917): «Улік і кантроль — вось галоўнае, што патрабуецца для (...) правільнага функцыянавання першай фазы камуністычнага грамадства».

Чым завяршылася першая фаза — добра вядома. Не сціхаюць спрэчкі наконт прычын сумнага фіналу. Тут колькі людзей — столькі меркаванняў. Паводле аднаго з іх, даволі папулярнага ў свой час, дзяржава бязбожнікаў і не магла доўга існаваць. Але ці варта лічыць камуністаў бязбожнікамі, або яны адну рэлігію замянілі на іншую? Урэшце, звышзадача любой рэлігіі зводзіцца да надання сэнсу жыццю чалавека. А ўжо ў гэтым камуністы не мелі сабе роўных у XX стагоддзі.

Калі пагадзіцца з Ніцшэ, з моманту смерці Бога не прайшло і 140 гадоў, а для таго, каб яго цень, як цень бацькі Гамлета, назаўжды нас пакінуў, спатрэбіцца тысячагоддзе. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што спробы рэінкарнацыі багоў і рэлігій не спыняюцца. Чарговая нараджаецца на нашых вачах. Імя ёй — датаізм.

Асновы новай рэлігіі сфармуляваў ужо знаёмы нам Юваль Харары ў кнізе «Homo Deus: кароткая гісторыя заўтрашняга дня». Але, як гэта часта здараецца ў жыцці, новае на паверку апынулася сучасным варыянтам добра забытага старога, бо пра тое, што інфармацыя кіруе светам, ведаў яшчэ Натан Ротшыльд — заснавальнік англійскай галіны Ротшыльдаў. З гісторыяй пра тое, як пры дапамозе паштовых галубоў ён здолеў зарабіць за дзень 40 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў, можна азнаёміцца ў інтэрнэце — я не буду марнаваць на яе час.

### Тунэльны зрок

З дапамогай Харары перанясемся ў сучаснасць: «Паліталагі ўсё часцей гавораць пра палітычныя структуры як пра сістэмы апрацоўкі дадзеных. Аналагічна капіталізму і камунізму, дэмакратыі і дыктатуры з'яўляюцца па сутнасці канкуруючымі механізмамі збору і аналізу інфармацыі. Дыктатарскія рэжымы выкарыстоўваюць цэнтралізаваныя метады, а дэмакратыі аддаюць перавагу размеркаваным».

Які метад эфектыўней? У Старажытным Рыме — цэнтралізаваны, што і прывяло да падзення Рымскай рэспублікі і ўстанаўлення ўлады імператараў-аўтакратаў. Па гэтай жа прычыне ў старажытнагрэчаскіх гарадах уладу рэгулярна захоплівалі тыраны.

Без цэнтралізаваных метадаў апрацоўкі інфармацыі было б немагчыма фарміраванне таталітарных ідэалогій (камунізм, нацызм, фашызм). У аснове кожнай з іх ляжаў грандыёзны план будучыні. Ён быў вельмі просты — і таму адзіны для ўсіх. Але ў сучасным свеце, што бесперапынна ўскладняецца, прапанаваць адзіны для ўсіх план палітыкі не ў стане.

Вось і даводзіцца палітыкам-небаракам, нават тым, хто прэтэндуе на ролю нацыянальных лідараў, перакваліфікавацца ў домакіраўнікі. Гэты пераход заснавальнік датаізму тлумачыць наступным чынам: «Менавіта з-за імклівага развіцця тэхналогій і сваёй разгубленасці з нагоды няздольнасці хутка апрацоўваць дадзеныя сучасныя палітыкі думаюць значна больш вузка, чым іх папярэднікі сотню гадоў таму. Таму палітыка XXI стагоддзя пазбаўленая маштабных прасвятленняў. Урад стаў проста адміністрацыяй. Ён кіруе краінай, але ўжо не вядзе яе за сабой. Ён забяспечвае своечасовую выплату зарплаты настаўнікам і бесперабойнае функцыянаванне сістэм каналізацыі, але не мае ніякага ўяўлення пра тое, дзе краіна будзе праз дваццаць гадоў».

У дробнасці тэмаў ёсць свой плюс. Няздольнасць выпрацоўкі дзяржаўнай ідэалогіі ставіць крыж на масавых мабілізацыях насельніцтва, без якіх не магчымы рымейк Асвенцыму і ГУЛАГу. Максімум, на што сёння могуць разлічваць сучасныя фэйкавыя нацыянальныя лідары, — гэта прымус электарату да «правільнага» галасавання з дапамогай адміністрацыйных мераў. З людзьмі ў пагонах, студэнтамі і іншымі залежнымі ад дзяржавы сацыяльнымі групамі такі тып мабілізацыі пакуль яшчэ праходзіць.

Немагчымасць эфектыўнага засваення ўзрастаючага патоку інфармацыі вядзе да страты кантролю. Працэс гэты аб'ектыўны. Спыніць яго немагчыма. Вось і даводзіцца фэйкавым нацыянальным лідарам, якія прызвычаіліся «ісці ад жыцця», з бясконцай разнастайнасці лёсавызначальных тэмаў канцэнтравацца толькі на некаторых. У псіхалогіі такі тып інфармацыйнага самаабмежавання прынята называць «тунэльным зрокам».

Яскравы прыклад — Пуцін. Яго зацыкленасць на міжнародных праблемах у шкоду праблемам унутраным даўно ўжо ні для каго не з'яўляецца таямніцай. У нацыянальныя лідары бясколерны піцерскі чыноўнік прабіўся «не пераканаўчасцю ўласнай праграмы або красамоўствам папулісцкага дэмагога, а сродкамі палітычнай рэкламы і прапаганды, і толькі пасля таго, як быў устаноўлены поўны кантроль над СМІ, які выключаў з'яўленне любой непажаданай для рэжыму інфармацыі» (Леў Гудкоў, сацыёлаг).

### З абстрактнай тэорыі ў рэлігію

Беларускі калега Пуціна прайшоў свой шлях ад кіраўніка дзяржавы, якога «цікавіць усё», да Вярхоўнага кансультанта па надоях і прыбыльнасці вагі быдла. Такая зацыкленасць на сельскай гаспадарцы не адпавядае статыстыцы. У 2017 годзе ў сельскай, лясной і рыбнай гаспадарцы Беларусі працавала 416,6 тысячы чалавек (9,6% ад занятых у эканоміцы).

Быццам бы няшмат, але АП сам упэўнены і на працягу многіх гадоў спрабуе пераканаць іншых у тым, што «адзін аграрый дае працу сямі-васьмі людзям». Калі памножыць 416,6 тысячы на 7–8 — мы атрымаем лічбу, што ў тры разы перавышае колькасць занятых у прамысловасці: 2,916 — 3,333 мільёна супраць 1,023 мільёна. Але не варта засмучацца, у рэзерве ў нас ёсць сфера паслуг, у якой працуе 2,633 мільёна чалавек. Вось такая яна, «беларуская мадэль»: IT-краіна з вялікім калгасам у адным флаконе!

Хто валодае інфармацыяй, той валодае светам. Але чым валодае той, хто інфармацыю атрымлівае па метадзе «трох П» (падлога, плафон, палец)? Каму канкрэтна належыць той палец, з якога высмактаная інфармацыя пра беларускіх аграрыяў-волатаў, якія здолелі замкнуць на сабе ўсю прамысловасць і палову сферы паслуг у прыдачу?

АП любіць разважаць пра незалежнасць краіны, размешчанай «у выдатным, але вельмі небяспечным месцы — геаграфічным цэнтры Еўропы». Небяспекі гэтыя не выдуманыя, яны рэальныя. Іх у штодзённым рэжыме генеруюць свабодны рынак і дэмакратыя, але не праз сваю агрэсіўную прыроду, а таму што ўмеюць больш эфектыўна апрацоўваць інфармацыю.

На нашых вачах датаізм з абстрактнай навуковай тэорыі мутуе ў рэлігію, і падрывае пры гэтым крытэры дабра і зла, што склаліся за тысячагоддзі. Добра сёння тое, што спрыяе бесперашкоднаму распаўсюджванню інфармацыі. Добра сёння тое, што дазваляе атрымліваць высокія ўраджаі без кантралёраў з міліцыі, КДК і пракуратуры.

# Любоў вяртаецца да тых, хто яе не шкадуе

Кацярына ШУСТ

**Мы сядзім ва ўтульнай кухні аднаго з невялікіх дамоў гэтага вялікага гораду і п'ем гарбату. Ёсць і нагода: мая сяброўка Яна сёння святкуе дзень нараджэння. А таму нас тут шмат сабралася: апроч мяне і яе, яшчэ Фара, Маша, Ляля, Муза, Федзя, Дзіна і Аліса.**





Вось толькі ўласна людзі з гэтага спісу — апошнія тры, гэта муж і дочкі-блізняткі Яны. Астатнія — хатнія гадаванцы, але яны тут цалкам паўнавартасныя чальцы сям'і. Гэтыя коткі і сабака некалі жылі на вуліцы, усім Яна дала дах над галавой, клопат і любоў. Але гэта далёка не ўсе жывёлы, якіх мая сяброўка выратавала ад галоднай бяздомнай смерці: такіх, напэўна, сотні.

Усіх сваіх «хвосцікаў» Яна гадамі ратавала сама. Хтосьці знаходзіў яе намаганнямі добрых гаспадароў, хтосьці заставаўся ў сям'і, бо вельмі палюбіўся. Некаторыя ўжо «на вясёлцы», але дзякуючы вялікаму Янінаму сэрцу яны пражылі добрае шчаслівае жыццё. Здаецца, колькі яе ведаю, Яна ўвесь час гэтым займалася, паступова заразіла такой дабрачыннасцю некаторых сяброў, сваю маму (якая цяпер актыўна ратуе жывёлак у Гродне), але пры гэтым паспявае абсалютна ўсё іншае: працаваць, адпачываць, падарожнічаць, стварыла сям'ю і выхоўвае цудоўных дзетак. І выдатна разумею — усё ж я і сама пару разоў падбірала бадзяжных жывёлаў — як шмат часу і клопату на гэта неабходна, як неверагодна шмат патрабуецца эмацыйнай устойлівасці, усе гэтыя гады я не магу адказаць на пытанне: як, ну як яна гэта робіць?

Але Яна і сама не можа адказаць. Хіба што словамі: «А як інакш?» Як можна прайсці міма, калі вось яно, жывое стварэнне, якое зусім не вінаватае ў тым, што нарадзілася на вуліцы ці аказалася нікому не патрэбнае, якому балюча, крыўдна і страшна. Узгадвае, як ужо ў студэнцкія гады, калі здымала з сяброўкай кватэру, узяла да сябе першае кацянё.

— У нашым пад'ездзе нейкі хлопчык хадзіў па ўсіх паверхах, спрабаваў аддаць каму-небудзь гэтае кацянё. Яно было зусім маленькае і зусім хворае. А мне было шкада хлопчыка, што вось ёсць нехта спагадлівы, што ён бачыцца і хоча дапамагчы, а не ведае, што рабіць. Спачатку не рашалася. Але потым, калі сядзела на лекцыях, не магла не думаць пра яго. І прагуляла пару, паехала забраць кацянё ды адвезці да доктара...

Кацянё вылечылі ды ўладкавалі ў добрыя рукі. А ў Яны былі новыя і новыя выратаваныя пухнацікі, доўгія гадзіны ў ветэрынарных клініках, безліч аб'яваў у сацыяльных сетках ды на адмысловых сайтах, каб знаходзіць дом тым, каму ён так патрэбны. Па магчымасці Яна займаецца пературымкай жывёл, але галоўная актыўнасць — рэклама, дапамога куратарам. Бываюць нечаканая прыемныя сітуацыі, калі людзі пачынаюць цікавіцца пародзістым гадаванцам, але ў выніку расчульваюцца і бяруць да сябе звычайную дварняжку. Бываюць, на жаль, і адваротныя выпадкі. Самае крыўднае, па словах Яны, калі тэлефануюць людзі, што ўжо маюць любімага прыгожага сабаку, якога песцяць і дагледаюць, але ў валанцёраў шукаюць іншага для ўтылітарных мэтаў: пасадзіць на ланцуг, трымаць галодным і злым для абароны дома. «Як жа так можна?» — горка кажа Яна, бо для яе не існуе больш вартых і менш вартых, яна ва ўсіх бачыць тых, хто заслугоўвае дапамогі і любові.

Яніны трохгадовыя дачушкі таксама ўжо таксама шкадуюць жывёлак і, пабачыўшы іх на вуліцы, першай справай пытаюць: «Мама, дом?» Дзеці разумеюць такія рэчы, якія застаюцца не зразумелымі, на жаль, для вялікай колькасці дарослых.

Праблема беспрытульных жывёлаў у нашай краіне настолькі маштабная, што пра гэта кажуць нават замежныя зоаабаронныя арганізацыі. Яе вырашэнню пакуль не спрыяе ні заканадаўства, ні культурны ўзровень грамадства ў гэтай сферы. Прыняцце закона аб абыходжанні з жывёламі зацягвалася доўгія гады, на дадзены момант гэты закон функцыянуе зусім не ў той ступені, якая спрыяла б павышэнню адказнасці — і таму мы дагэтуль чытаем жахлівыя навіны пра выкінутых з балконаў, атручаных, збітых да смерці гадаванцаў.

Грамадскія арганізацыі, якія займаюцца жывёламі, традыцыйна не ў пашане ў дзяржаўных органаў — адсюль перашкоды і ў рэгістрацыйных момантах, і ў пошуках фінансавання. Што тычыцца дзяржаўных арганізацый — гэта службы адлову і прытулкі, якія па факце не прытулкі, а ўсыпальні. Жывёлы ўтрымліваюцца там вельмі непрацяглы час, пасля чаго іх забіваюць зусім не гуманнымі спосабамі.

Чаму ж на нашых вуліцах так шмат бяздомных жывёлаў? Прычын некалькі.

Раптоўная ўрбанізацыя. Людзі сталі масава перасяляцца ў гарады, а звычкі засталіся вясковыя. Шмат хто не бачыць праблемы ў тым, што котка ці сабака будуць бегаць па дварах, як было ў вёсцы. Але нестэрылізаваная жывёла будзе спрыяць з'яўленню новых. Якія альбо застануцца на вуліцы і будуць бескантрольна размнажацца далей ды пакутаваць ад хваробаў, холаду і недахопу ежы, альбо... Гэта жахліва нават уявіць, але процьме людзей чамусьці прасцей зноў і зноў тапіць, душыць маленькіх толькі народжаных кацянят ці шчанюкоў, чым аднойчы стэрылізаваць свайго гадаванца.

Час ад часу зоаабарончыя арганізацыі намагаюцца разам з ветэрынарамі ладзіць такія працэдуры бясплатна, а таксама пастаянна звяртаюцца з такой прапановай да дзяржаўных службаў адлову. Справа зусім не складаная, пагатоў, зробленая аднойчы, яна прадухіляе шмат негатыўных наступстваў.

Мода і безадказнасць. На жаль, часта стаўленне людзей да жывых істот — як да цацак. Набыў сабе ці ў падарунак — не спадабалася, не разлічыў адказнасці, надакучыла — выкінуў на вуліцу. Не дапамагае нават вялікі кошт пародзістых жывёлаў: сярод бяздомных ужо не рэдкасць і каты, і сабакі вельмі дарагіх парод. Гэты лёс можа напаткаць і маладых жывёлак, але часцей людзі пазбаўляюцца ад тых, хто ўжо стары і патрабуе лепшага догляду. Гэта асабліва цынічна: менавіта той, каму найбольш патрэбная дапамога праз узрост і хваробы, робіцца ахвярай чалавечай жорсткасці і дажывае жыццё ў пакутах і холадзе на вуліцы. На шчасце, існуюць валанцёры і невялічкія арганізацыі, якія ратуюць прыярытэтна жывёлаў-інвалідаў і старых. Але іх, канешне, мала.

**На жаль, часта стаўленне людзей да жывых істот — як да цацак. Набыў сабе ці ў падарунак — не спадабалася, надакучыла — выкінуў на вуліцу. Не дапамагае нават вялікі кошт пародзістых жывёлаў: сярод бяздомных ужо не рэдкасць і каты, і сабакі вельмі дарагіх парод**

Безадказныя заводчыкі — яшчэ адзін вялікі боль для валанцёраў. У гэтым бізнесе часта ў пагоні за хуткімі грошамі людзі не клапоцяцца пра ўмовы ўтрымання жывёлаў і эксплуатуюць іх для нараджэння пародзістага дарагога патомства вельмі жорстка. Гэта і праблема сама па сабе, і прычына з'яўлення вялікай колькасці жывёл, якіх набываюць толькі дзеля моды. І нягледзячы на прывабнасць пэўнай пароды, на думку зоаабаронцаў, больш слушным учынкам з'яўляецца не набываць жывёлаў і не падтрымліваць такім чынам бізнес па іх развядзенні, а браць дахаты тых, хто на вуліцы ці ў прытулках.

Страх. Напэўна, гэтым ёмістым словам можна апісаць розныя прычыны, па якіх нават добрыя людзі праходзяць міма бадзяжных жывёлаў і не дапамагаюць ім. Я кажу менавіта пра страх, бо так ці інакш пры сутыкненні з магчымасцю забраць жывёлу з вуліцы мы ўсе нечага баімся. Лішніх выдаткаў, і не толькі грашовых. Страты кавалачку ўласнага камфорту і зручнасці. Гэта страх невядомасці: а што рабіць з гэтым няшчасным пухнатым камячком? Альбо гэта можа быць страх захварэць: напрыклад, мяне ўсё дзяцінства бабуля палохала лішаём, не дазваляючы карміць і гладзіць бяздомных коцікаў. На гэта Яна толькі смяецца: хваробы жывёлаў далёка не настолькі заразныя для чалавека, і нават у горшым выпадку вылечыцца зусім не складана — у гэтым яна ўжо пераканалася на ўласным досведзе.

Можна бясконца здзіўляцца таму, як шмат яшчэ карысных ведаў пра абыходжанне з жывёламі недаступна людзям у нашай краіне. Але можна таксама займацца асветай сябе і сваіх сяброў, знаёмых, дапамагаць валанцёрам і ветэрынарам, ды проста заставацца людзьмі і не рабіць тых рэчаў, якія народзяць жорсткасць і няшчасце: не дарыць жывёлаў тым, у чыёй адказнасці ёсць сумневы; не пагарджаць стэрылізацыяй сваіх гадаванцаў; зрэшты, не выкідаць іх з хаты, калі ўжо яны ў вас з'явіліся.

А самы лепшы ўчынак — гэта, безумоўна, пераадолець свае страхі хоць крыху і падарыць шчасце хаця б адной бяздомнай жывёлцы. Такіх людзей, як Яна, ніколі не будзе шмат, гэта хутчэй яскравыя адзінкі, якіх часта лічаць дзівакамі, і ўсё ж немагчыма не захапляцца іх ціхім штодзённым гераізмам — ну а як яшчэ гэта назваць? Але калі б кожны з нас змог выратаваць хоць адну котку ці сабаку, дабра і шчасця ў гэтым свеце стала б болей.

...Мы дапіваем гарбату. Дзеці весела балбочуць з гарэзай-сабакам, хітрыя коткі імкнуцца сцягнуць са стала апошні кавалак торта. Як многа цеплыні і радасці ў гэтай вялікай сям'і, насуперак усім жыццёвым турботам. Не ў апошнюю чаргу гэтае шчасце — вынік менавіта ўсёй той любові, з якой Яна ставіцца да жыцця і да жывых істотаў. А любоў заўсёды з лішкам вяртаецца да тых, хто не шкадуе яе для іншых.

**Фота з сямейнага архіву ласкава прадастаўленыя гераіняй матэрыялу**

# Каму аддаць Русь

Алег ДЗЯРНОВІЧ, КАНДЫДАТ ГІСТАРЫЧНЫХ НАВУК

**Спадчына Вялікага Княства Літоўскага настолькі багатая і шматгранная, што можа быць рэактуалізаванай і інтэрпрэтаванай адразу некалькімі народамі нашага рэгіёну Еўропы. Сучасныя беларусы і ўкраінцы знаходзяць у гісторыі ВКЛ крыніцы натхнення і шукаюць павучальныя сюжэты. Польская гістарыяграфія ўспрымае Вялікае Княства XVI—XVIII стагоддзяў як яшчэ адну польскую дзяржаву, разам з Каронай і Мазоўшай. Большая частка літоўцаў ставіць знак роўнасці паміж ВКЛ і сучаснай Літвой. Рэгіянальныя катаклізмы апошняга дзесяцігоддзя абудзілі новую цікавасць да супольнай гісторыі, але зрабілі сумесную працу на грунце спадчыны больш лакалізаванай і палітызаванай.**






## Брыгада імя князя Астрожскага

Адным з яскравых прыкладаў выкарыстання сімвалічнага капіталу спадчыны ВКЛ можа быць LITPOLUKRBRIG — асобная шматнацыянальная брыгада, утвораная з вайсковых адзінак Літвы, Польшчы і Украіны. Ідэя яе стварэння была агучана яшчэ ў 2007 годзе. Але першыя практычныя крокі былі зробленыя 17 лістапада 2009 года, калі на трохбаковай кансультатыўнай нарадзе было аформлена рашэнне пра стварэнне трохпалкавой міжнароднай брыгады з мэтай удзелу ў міратворчых акцыях ААН, ЕС і NATO. Быў абраны наступны прынцып дыслакацыі падраздзяленняў: кожная «нацыянальная» адзінка базуецца на сваёй тэрыторыі, але ў Любліне, месцы абвяшчэння Люблінскай уніі, знаходзіцца штаб аб’яднанай брыгады. Такі штаб сапраўды быў створаны, але фарміраванне брыгады прыпынілася.

Расійска-ўкраінскі палітычны і ваенны канфлікт прывёў да рэзкага ўзрастання тэмпаў арганізацыйнай працы. Цягам 2014 года адбылося падпісанне ўсіх базавых дакументаў і міжнародных дамоваў, а на працягу 2015-га працэдуры ратыфікацыі былі праведзеныя ва ўсіх трох краінах. Ініцыятыва была абвешчаная як частка плану падтрымкі Украіны, прынятага на саміце NATO ў Ньюпарты (Уэльс) 4–5 верасня 2014 года. На сёння аб’яднаная брыгада налічвае 4500 вайскоўцаў, з якіх 3500 рэпрэзентуюць Польшчу, 560 — Украіну, 350 — Літву. Асноўныя баявыя часткі: літоўскі батальён уланаў імя Вялікай княгіні Біруты, батальёны і дывізіёны польскай 21-й брыгады Падгалянскіх стральцоў, украінскі батальён 80-й дэсантна-штурмавой брыгады. Украінскі кампанент брыгады падрыхтаваны паводле стандартаў NATO і размешчаны ў Львове. 20 верасня 2018 года камандаванне брыгадай на чарговыя 3 гады ад польскага брыгаднага генерала Зянона Бжушка пераняў украінскі афіцэр палкоўнік Дмытро Брацішка, які паходзіць з Данецку.

На гэтым сімвалічны шэраг не заканчваецца. Ад 5 кастрычніка 2017 года аб’яднаная брыгада мае афіцыйнага патрона ў асобе найвышэйшага гетмана ВКЛ князя Канстанціна Астрожскага. У траўні 2016-га падчас абмеркавання гэтай ініцыятывы на сумесным пасяджэнні Міжпарламенцкай асамблеі Вярхоўнай Рады Украіны, Сейму Літоўскай Рэспублікі, Сейму і Сенату Польшчы, спікер Вярхоўнай Рады Андрэй Парубій заявіў: «Хачу нагадаць, што, уласна, аб’яднаная ўкраінска-польска-літоўская армія пад кіраўніцтвам князя Астрожскага 8 верасня 1514 года разбіла маскоўскае войска пад Воршай. Гэта добрая сімвалічная прыгадка для нас, якая сведчыць пра тое, што калі мы стаялі плячо ў плячо, мы супольна спынялі агрэсара». Інфармацыя пра патрона маецца і на афіцыйнай інтэрнэт-старонцы брыгады, дзе пра князя Астрожскага пішацца, што ён «быў і застаецца сімвалам еднасці народаў Літвы, Польшчы і Украіны». А ў англамоўнай версіі старонкі імя князя транслітэруецца з украінскага напісання: Kostiantyn Ostrogski.

## Надмагілле князя Астрожскага

На гэтым функцыі Канстанціна Астрожскага ва ўкраінска-польска-літоўскім яднанні не заканчваюцца. І гэтым разам сімвалічную функцыю пераймае надмагілле князя.

Князь Канстанцін пайшоў з жыцця 11 верасня 1530 года ў Тураве. Гэты старажытны княжацкі цэнтр, як спадчыннае ўладанне Глінскіх, быў перададзены Астрожскаму манархам у 1508 годзе пасля паразы паўстання Міхаіла Глінскага і ўцёкаў апошняга ў Маскву. Паводле тастаменту Канстанціна Астрожскага, яго цела было перавезена ў Кіеў і 24 верасня 1530 года пахаванае ўдавой князя Аляксандрай Сямёнаўнай Слуцкай з князёў Слуцкіх у Пячорскім манастыры — у галоўным саборным храме Успенскай царквы («Вялікай царкве»).

Ужо сын князя Астрожскага Васіль-Канстанцін 7 жніўня 1579 года ўсталяваў у царкве надмагілле свайму бацьку. Гэты ўзор пластыкі быў выкананы ў манеры італьянскага Адраджэння, але мусіў сімвалізаваць сармацкую канцэпцыю з яго этычным ідэалам рыцара-ваяра і добрага сельскага гаспадара-стоіка. Архідыякан Антыахійскай Праваслаўнай царквы Павел Алепскі, які ў складзе пасольства патрыярха Антыахійскага Макарыя праехаў праз усю Усходнюю Еўропу, у чэрвені 1654 года наведаў Кіева-Пячорскую лаўру. Свае ўражанні ад надмагілля гетмана ВКЛ сірыйскі клірык пакінуў у сваіх падарожных нататках: «На... гэтай арцы маюцца абрысы даўгаватага стала, на якім спіць чалавек з барадою, у жалезных даспехах; ён выраблены з цвёрдага чырвонага каменю, падобнага на парфір, і нічым не адрозніваецца ад поўнай чалавечай фігуры. Ён ляжыць, абапёршыся на локаць, падклаўшы руку пад галаву; адно калена яго ўскладзена на другое; на галаве пазалочаная карона, на грудзях — пазалочаныя ланцужкі. Гэты твор уражвае здзіўленыя розумы».

Пасля пажару 1718 года і значнага пашкоджання манумент страціў рэнесансны дэкор і пасля рэканструкцыі 1722–1729 гадоў атрымаў новыя барочныя шаты. Першыя фотаздымкі надмагілля ў канцы XIX стагоддзя пакінулі нам той вобраз надмагілля, які, з рознымі культурнымі напластаваннямі стаў класічным для зацікаўленай публікі. Менавіта ў эпітафіі на надмагіллі князь Астрожскі быў названы «Сцыпіёнам рускім».

Гісторыя існавання аўтэнтычнага нагробка абрываецца ў час Другой сусветнай вайны — 3 лістапада 1941 года Успенскі сабор Кіева-Пячэрскай лаўры быў узарваны. І па сёння не да канца зразумелыя абставіны гэтага. Многія публіцысты звяртаюць увагу, што падрыў Успенскага сабору адбыўся ў дзень наведвання Лаўры Ёзэфам Ціса, прэзідэнтам Славаччыны — тагачаснай дзяржавы-сатэліта нацысцкай Нямеччыны. У такім разе гэтая акцыя цалкам укладаецца ў ло-

**Спікер Вярхоўнай Рады Украіны Парубій заявіў: «Хачу нагадаць, што, уласна, аб’яднаная ўкраінска-польска-літоўская армія пад кіраўніцтвам князя Астрожскага 8 верасня 1514 года разбіла маскоўскае войска пад Воршай. Гэта добрая прыгадка для нас, якая сведчыць пра тое, што калі мы стаялі плячо ў плячо, мы супольна спынялі агрэсара»**

гіку савецкай дыверсійнай дзейнасці, і пра гэта заяўляла нямецкая акупацыйная адміністрацыя.

Але скептыкі звяртаюць увагу, што Ціса і яго світа пакінулі Лаўру ў 13.30, а магутны выбух адбыўся ў 14.30. Апроч таго, у 1995 годзе ў прыватнай калекцыі ў нямецкім Обергаўзене была знойдзена серыя фотаздымкаў, зробленых нямецкім афіцэрам 3 лістапада 1941 года. На гэтых здымках прадстаўлена сітуацыя перад выбухам, сам выбух і тое, што засталося пасля яго, — тобок, нямецкая акупацыйная адміністрацыя рыхтавалася да падрыву Успенскага сабору.

Апошнім жа часам сярод даследчыкаў набірае папулярнасць версія, што нямецкія сапёры падарвалі выбуховыя прыстасаванні, таемна закладзеныя ў Лаўры ў жніўні-верасні 1941 года мінёрамі 11-га ўзводу лейтэнанта Міхаіла Татарскага, які ў сваіх успамінах пацвердзіў гэты факт. Нямецкія сапёры здолелі абясшкодзіць частку зарадаў, але знойдзеныя пад Успенскім саборам прыстасаванні немагчыма было бяспечна выняць па тэхнічных абставінах. Баючыся дэтанацыі, немцы абясшкодзілі міны іншым сродкам — падарвалі іх. Перад выбухам нямецкія жаўнеры ўзялі ў кола тэрыторыю вакол Лаўры. Дакументальна зафіксаваныя факты разрабавання нямецкай адміністрацыяй кіеўскай святыні — Лаўры.

Як бы тое ні было, але Успенскі сабор, некропаль кіеўскіх князёў, пераўтварыўся ў руіны.

Пасля Другой сусветнай вайны пачалося археалагічнае вывучэнне рэштках Успенскага сабору, якія ў 1971 годзе былі закансерваваныя і прадстаўленыя да экспанавання. А ў снежні 1995-га прэзідэнт Кучма падпісаў указ пра аднаўленне сабору. У жніўні 2000 года Успенскі сабор быў зноў асвечаны. Тады ж паўстала пытанне інтэр’ераў аднаўленай святыні.

Падчас актыўнай стадыі расійска-ўкраінскага канфлікту ў 2014-м пасол Літоўскай Рэспублікі ва Украіне Пятрас Вайтэкунас выступіў з прапановаю аднаўлення ва Успенскім саборы надмагілля гетману Астрожскаму. Пераемнік Вайтэкунаса на пасадзе амбасадара Марус Януконіс таксама падтрымаў гэтую ініцыятыву. Ужо ў кастрычніку 2015-га ў Нацыянальным Кіева-Пячорскім гісторыка-культурным запаведніку грамадскасці быў прадстаўлены макет надмагілля ў маштабе 1:15, сфармаваны і аўтарскі калектыў у складзе ўкраінскіх скульптараў Алеся Сідарука і Барыса Крылова, а таксама літоўскага скульптара Арунаса Сакалаўскаса. І ўжо праз год была падрыхтаваная мадэль надмагілля ў маштабе 1:5, якая была выробленая дзякуючы падтрымцы літоўскага прадпрымальніка і мецэната



**Надмагілле князя Канстанціна Астрожскага ва Успенскім саборы. Здымак канца XIX — пачатку XX ст.**

# (Літоўскую)?


Руіны Успенскага сабору (здымкі з Федэральнага архіву ФРГ)


Аднаўлены Успенскі сабор Кіева-Пячэрскай лаўры

Робертаса Габуласа, што мае ва Украіне ўласны бізнес.

Адмыслова дзеля рэалізацыі праекту рэканструкцыі надмагілля гетмана ВКЛ Габуласам быў створаны дабрачынны фонд «Карона князёў Астрожскіх». Аднаўленне мемарыяльнага помніка Канстанціна Астрожскага таксама атрымала падтрымку Міжпарламенцкай асамблеі парламентаў Украіны, Літоўскай Рэспублікі і Польшчы, якая ў траўні 2016-га звярнулася да ўрадаў сваіх краінаў з заклікам аказання максімальнага спрыяння ў рэалізацыі гэтага праекту.

### Выдавецкія праекты

Літоўска-ўкраінскае супрацоўніцтва актыўна развіваецца і ў выдавецкай галіне. Яшчэ ў 1997 годзе ў Кіеве літоўскім кніжным прадпрымальнікам Віргініюсам Стролям было ўтворанае выдавецтва «Балтія-Друк», якое спецыялізуецца ў турыстычных і ілюстраваных гістарычных выданнях. Але росквіт выдавецтва прыпаў на апошняе дзесяцігоддзе, калі пры падтрымцы МЗС Літоўскай Рэспублікі стала выходзіць цэлая нізка выданняў, прысвечаных знакамітым княжацкім родам, што былі павязаныя з Украінай часоў ВКЛ і Рэчы Паспалітай: Астрожскім, Радзівілам, Алелькавічам-Слуцкім, Вішнявецкім. Таксама беларуская аўтары бралі ўдзел у падрыхтоўцы гэтых выданняў альбомнага кшталту.

Але найбольш важнай для выбудовы новага гістарычнага наратыву стала калектыўная манаграфія «На перакрыжаванні культур: Манастыр і храм Святой Тройцы ў Вільні», якая выйшла ў свет у выдавецтве Віленскага ўніверсітэту ў двухмоўнай версіі (па-ўкраінску і па-літоўску) у 2018 годзе. Манаграфія стала вынікам супольнага даследчага праекту Віленскага Універсітэту і Львоўскага Каталіцкага Універсітэту «Праваслаўная і ўніяцкая супольнасці ў ВКЛ: гісторыя, культура, памяць» (2015–2017 гг.).

Сам жа праект фінансаваўся Навуковаю радай Літвы ды Міністэрствам асветы і навукі Украіны пры падтрымцы ўкраінскіх мецэнатаў. Фактычна, прапанаваны новы падыход у інтэрпрэтацыі культурнай спадчыны рэгіёну на прыкладзе адной з найдаўнейшых публічных інстытуцый Вільні — праваслаўнага, а пазней уніяцкага манастыра і храма Святой Тройцы, якія трактуюцца як украінскі культурны і духоўны цэнтр Літвы ды асяродак украінска-літоўскага супрацоўніцтва.

Першая драўляная царква Святой Тройцы паўстала ў 1347 годзе па паўднёвай ускраіне тагачаснай Вільні ў дуброве, на легендарным месцы пакарання трох віленскіх пакутнікаў Антона, Яна і Яўстаха. Але мураваны гатычны храм узнік у 1514–1516 гадах дзякуючы фундацыі Канстанціна Астрожскага і стаў мемарыялам яго перамогі пад Воршай. Ужо пасля Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года Траецкая царква стала адным з галоўных асяродкаў пашырэння ўніі, а цяперашні выгляд манастыра быў сфармаваны ў значнай ступені знакамітым дойлідам стылю ракако ў ВКЛ (віленскага барока) Яна Глаўбіца.

У 1991 годзе Грэка-каталіцкая царква атрымала ў Літоўскай Рэспубліцы легальны статус, а на працягу 1992— 1994 гадоў урад перадаў мясцовай грэка-каталіцкай грамадзе комплекс пабудоваў царквы і манастыра Святой Тройцы, якія сталі асяродкам культурнага і рэлігійнага жыцця ўкраінскай дыяспары. Можна сказаць, што дзякуючы ўладам Літоўскай Рэспублікі ўкраінцы зараз зноў адкрываюць для сябе духоўны цэнтр Берасцейскай царкоўнай уніі — базыліянскі манастыр Святой Тройцы.

Падрыхтоўка і выданне манаграфіі «На перехресті культур: Монастир і храм Пресвятої Трійці у Вільнюсі / Kultūrų kryžkelė: Vilniaus Švč. Trejybės šventovė ir vienuolynas» па-новаму расстаўляе акцэнты ва ўспрыняцці супольнай гісторыі. Можна сказаць, што адбываецца вельмі цікавы эксперымент з трансфармацыяй гісторыі. Падзеі вакол Траецкай царквы разглядаюцца ў шырокім кантэксце існавання ўсходнеславянскай («рускай») супольнасці ВКЛ, і лакальна, праз гісторыю асобнай часткі гораду, фактычна паловы Вільні ў Сярэднявеччы — Civitas Ruthenica, «Рускага гораду» Вільні. Трэба было выявіць вялікую інтэлектуальную стрыманасць, каб абысці праблему фармавання гэтага Civitas Ruthenica і задаволіцца намёкамі ды штучнай прывязкай насельнікаў Вільні другой паловы XIII стагоддзя, у дагедымінаву эпоху, ад моманту фіксацыі археолагамі хрысціянскіх могілак Вільні, да ўкраінскай гісторыі ў сучасным яе разуменні.


Макет аднаўленага надмагілля князя Канстанціна Астрожскага

Не так усё проста і з уніяцкай старонкай гісторыі Траецкай царквы. Бо ў XVII стагоддзі гісторыя царкоўнай уніі — гэта пераважна падзеі на беларускіх землях. Кіеў ад 1654 года знаходзіўся пад пратэктаратам Масквы, і ўніяцкая праблематыка ўжо не мела да яго дачыненняў. Львоўскія ж хрысціяне моцна трымаліся ўсходняй традыцыі. Львоўская епархія перайшла з праваслаўя ў грэка-каталіцтва ў 1700 годзе, Луцкая — у 1702-м. Фактычна, гісторыя грэка-каталіцкай царквы ў Заходняй Украіне адлічваецца ад XVIII стагоддзя. Вільня ж заставалася асяродкам «рускай» супольнасці ВКЛ на працягу ўсяго існавання дзяржавы — і да ўключэння ўкраінскіх зямель за Альгердам, і пасля Люблінскай уніі 1569 года, калі ўкраінскія ваяводствы былі інкарпараваныя ў склад Кароны Польскай.

Можна меркаваць, што найноўшы выдавецкі праект — гэта вельмі сур'ёзная заява на «перадачу» спадчыны Русі ВКЛ (Літоўскай Русі) да Украіны і анігіляцыі тым самым беларускага культурна-гістарычнага фактару ў гісторыі гэтай шматнацыянальнай і поліканфесійнай дзяржавы. З пункту гледжання навуковых аргументаў гэта даволі слабая, а можа нават наіўная пазіцыя. Усё ж у медыйнай сферы, у абсягах масавых уяўленняў падобная намаганні могуць мець часткова поспех, закладаючы скажоную перспектыву ментальнай геаграфіі і няпэўнасць этнічнай гісторыі.

**Найноўшы выдавецкі праект — гэта вельмі сур'ёзная заява на «перадачу» спадчыны Русі ВКЛ (Літоўскай Русі) да Украіны і анігіляцыі тым самым беларускага культурна-гістарычнага фактару ў гісторыі гэтай дзяржавы**

Якім чынам могуць рэагаваць беларускія гісторыкі і сімпатыкі Вялікага Княства на падобную сітуацыю? Апроч маніторынгу і аналізу беларускім адмысловцам варта выяўляць ініцыятыўнасць і гатоўнасць да супрацоўніцтва. Супольная спадчына стварае падмурак для супрацоўніцтва, але можа быць і прасторай для канкурэнцыі. Найбольш небяспечны тут варыянт паводзінаў — інструменталісцкае выкарыстанне гэтай спадчыны.

### Ад рэдактара:

***На мой погляд, своеасаблівая далікатнасць беларускіх гісторыкаў (толькі б не пакрыўдзіць каго) адносна спадчыны ВКЛ прывяла да таго, што мы не толькі згубілі падмурак для выхавання беларусацэнтрычнага пакалення, але і страцілі ініцыятыву і пазіцы на міжнародным узроўні. Менавіта на гэтым узроўні не існуе моцнай і міралюбнай еўрапейскай дзяржавы, якая шмат стагоддзяў мела дзяржаўнай мовай беларускую, была рэальным культурніцкім і палітычным цэнтрам Еўропы. Можа таму мы ўсё яшчэ ці то Паўночна-Заходні край, ці то Усходнія Крэсы. А братоў Тышкевічаў, як і шмат каго яшчэ, дзеляць паміж сабой Літва ды Польшча…***

***Гэты артыкул — запрашэнне да дыскусіі.***

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Панікёраў пакараюць

У Туркменістане пачалася актыўная праца па барацьбе з чуткамі пра смерць або нездароўе прэзідэнта Гурбангулы Бердымухамедава. Паводле дадзеных апазіцыйных СМІ, сілавыя ведамствы ўжо затрымалі трох чалавек, якіх абвінавачваюць у распаўсюдзе чутак, што спрыяюць дэстабілізацыі абстаноўкі ў краіне. Затрыманыя — работнікі ЖКГ і воднай гаспадаркі, якіх, мяркуючы па ўсім, чакае суровая кара. Зараз увесь туркменскі афіцыёз узняты на барацьбу з распаўсюджвальнікамі чутак, якіх называюць таксама «здраднікамі радзімы». Прапануюцца розныя формы пакарання — аж да выпальвання гарачым жалезам. Цяжка сказаць, ці здолеюць улады карнымі метадамі пагасіць інсінуацыі, якія набываюць палітычны характар. Цікава, што сам кіраўнік краіны дае глебу для чутак аб сваёй смерці. Бердымухамедаў 9 жніўня правёў пасяджэнне Кабінета міністраў па выніках работы ўрада за 7 месяцаў бягучага года і, на здзіўленне ўсіх, гэтым разам нікога з чыноўнікаў не пакараў. Многіх у сеціве такія паводзіны настолькі здзівілі, што далі падставу казаць: на месцы кіраўніка Туркменістану быў двайнік.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ІТАЛІЯ. Калыханка ад Берлусконі

Італьянскія культуролагі і сацыёлагі зафіксавалі шакавальны факт. Паводле вынікаў даследавання, людзі, якім у 1980-я было менш за 10 гадоў і якія ў той час глядзелі каналы Сільвіа Берлусконі, у сталым узросце галасуюць за партыі папулістаў. Нагадаем, што ў пачатку 1980-х гадоў у краіне адбылася рэформа тэлебачання, у выніку якой дзяржаўная кампанія Rai страціла манаполію. На рынак выйшла прыватная кампанія Mediaset, што належала Берлусконі, і хутка стала лідарам прагляду. У прынцыпе, сакрэт папулярнасці Mediaset быў дастаткова просты — як мага больш вострасюжэтных фільмаў і забаўляльных праграмаў. Спажыванне такой прадукцыі сфармавала ў шматлікіх італьянцаў дзіўную калектыўную свядомасць, носьбіты якой вельмі насцярожана ставіцца да палітычнай актыўнасці. Часткова гэта тлумачаць тым, што дзеці — аматары забаўляльных праграмаў, менш кантактуюць з аднагодкамі і, як вынік, менш давяраюць іншым людзям. З другога боку, простая мова вядучых шоу стварыла ў гледачоў давер да вельмі прымітыўных палітычных формулаў. Менавіта на крызісе грамадзянскіх пачуццяў партыя Берлусконі пазней прыйшла да ўлады. Высновы навукоўцаў вельмі цікавыя, аднак рэцэпт таго, як выйсці з трэнду, які быў запушчаны яшчэ ў 1980-х гадах, яны, на жаль, не прапануюць.

**Паводле італьянскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Хічкок вярнуўся

Калі верыць брытанскай прэсе, у некаторых гарадах Каралеўства назіраюцца сцэны, падобныя на тыя, што былі выяўленыя ў славутым фільме «Птушкі» Альфрэда Хічкока. Паводле сюжэту карціны, птушкі калектыўна атакуюць людзей. Тое ж самае робяць зараз мясцовыя чайкі. Паколькі брытанская рыбалоўная індустрыя знаходзіцца ў крызісе, чайкі больш не могуць знаходзіць ежу ў доках. Таму яны пачынаюць мігравацць углыб Брытаніі і атакаваць кантэйнеры з-пад смецця. Пры гэтым яны паводзяць сябе вельмі агрэсіўна — аж да таго, што зносяць у дзюбах невялікіх сабакаў. Найбольш небяспечна для людзей набліжацца да гнёздаў чаек. Скардзяцца на птушак і ўладальнікі вулічных кафэ — есці на адкрытых пляцоўках рызыкоўна праз тых жа чаек, якія намагаюцца скрасці ежу. У сувязі з навалай з неба муніцыпалітэт горада Вустэр ужо заклікаў да змены заканадаўства, каб даць людзям права страляць па чайках. Калі не пачаць абараняцца ад птушак, то, мяркуюць, можа паўтарыцца драматычны выпадак 2015-га, калі птушкі насмерць задзяўблі маленькае дзіця.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. Каму належаць казакі?

Тыя, хто цікавіцца камп'ютарнымі гульнямі, ведаюць пра «Казакаў» — камп'ютарную гульню ў жанры стратэгіі ў рэальным часе, што распрацаваная ўкраінскай кампаніяй GSC Game World. З улікам таго, што ў 2016 годзе выйшла трэцяя версія «Казакаў», можна казаць пра поспех праекту. Аднак нечакана стратэгія трапіла на вочы Савету атаманаў Расіі (САР), які пабачыў у ёй парушэнне аўтарскіх правоў. На думку атаманаў, толькі яны маюць права выкарыстоўваць брэнд «казак», паколькі прадстаўляюць тых самых казакаў. «Мы прэтэндуем на 10% ад даходаў. З улікам выкарыстання на працягу некалькіх гадоў належных нам правоў на імя, сума можа скласці каля 4 мільёнаў долараў», — кажа адзін з атаманаў. Натуральна, узнікае пытанне — а як жа запарожскія казакі, якія, дарэчы, і выяўленыя ў гульні? На думку атаманаў Расіі, запарожскія казакі — гэта позні варыянт расійскіх. Паводле САР, гістарычная радзіма казакаў — Разань, а на Доне і ў Запарожскай сечы казакі з'явіліся праз 400 гадоў пасля першай згадкі ў летапісах аб разанскіх казаках. З іншага боку, САР гатовыя падзяліцца з братамі-ўкраінцамі і даць кожнаму чальцу ўкраінскіх казацкіх арганізацый па 8 тысяч долараў.

**Паводле расійскай прэсы**




Фота www.washingtonpost.com

# ЛГБТ тут не месца!

Алег НОВІКАЎ

**У адказ на актывізацыю абаронцаў правоў сексуальных меншасцяў польскія кансерватыўныя муніцыпалітэты пачалі абвяшчаць свае тэрыторыі зонамі, вольнымі ад ЛГБТ.**

Яшчэ ўчора назва 40-тысячнага гарадку Свіднік, што пад Люблінам, выклікала асацыяцыю хіба што з мясцовым аэрапортам, які мае рэгіянальнае значэнне. Або з заводам па вытворчасці верталётаў. Цяпер Свіднік грыміць на ўсю Польшчу як горад, які першым быў абвешчаны зонай, вольнай ад ЛГБТ. 26 сакавіка адпаведную пастанову амаль аднагалосна прыняла рада гміны, пратэстуючы «супраць культурнай рэвалюцыі, што знішчае свабоду слова, дзіцячую цнатлівасць, аўтарытэт сям'і і школы», і нават таксама чамусьці «правы бізнесу».

Спачатку ўсё выглядала крыху забаўна, аднак зараз — ужо не да жартаў. Пасля таго, як напрыканцы ліпеня ў Беластоку мела месца спроба разагнаць першы ў гісторыі горада гейпрайд, тэма правоў сексуальных меншасцяў аказалася за Бугам у цэнтры палітычных дэбатаў.

Пры гэтым ствараецца ўражанне, што абодва бакі настроеныя змагацца выключна да пераможнага канца. Прадстаўнікі ЛГБТ-камуны патрабуюць увесці ў школах прадмет «сексуальная адукацыя» і стварыць за кошт бюджэту ў вялікіх гарадах нешта накшталт інтэрнатаў, дзе ахвяры гамафобіі могуць бясплатна знаходзіць прытулак. Падобныя патрабаванні апаненты з лагеру кансерватараў ацанілі як «замах на сям'ю і польскую ідэнтычнасць», адказаўшы кампаніяй па стварэнні на месцах тых самых зонаў, вольных ад ЛГБТ.

На цяперашні час ініцыятыву такіх зонаў падтрымалі ўжо больш за 30 органаў лакальнага самакіравання, што знаходзяцца галоўным чынам у Малой Польшчы або на Любліншчыне. У Люблінскім ваяводстве ідэя зонаў знайшла падтрымку ў тым ліку на ўзроўні рэгіянальнага сейміку. Далей за ўсіх пайшлі ў Рыцкім павеце, што таксама на Любліншчыне. У пастанове рыцкіх дэпутатаў гаворыцца пра пагрозу тэрору гомасексуалаў, на барацьбу з якімі, маўляў, дабраслаславіў яшчэ пантыфік Ян Павел ІІ.

Як і трэба было чакаць, ліберальныя юрысты пабачылі ў абвешчаных зонах парушэнне Канстытуцыі і міжнародных пактаў, якія падпісала Польшча. Перш за ўсё, гэта параграфы, што забараняюць любую форму дыскрымінацыі грамадзян Польшчы ў палітычнай, грамадскай або гаспадарчай сферах паводле любой прычыны. Адвакаты ЛГБТ апелююць да кіраўнікоў рэгіянальных адміністрацый, сцвярджаючы, што мясцовыя дэпутаты перайшлі межы сваёй кампетэнцыі.

Абурылася на тыя зоны і ліберальная грамадскасць, якая пабачыла ў гэтым рымейк нацысцкай палітыкі, калі для шматлікіх катэгорый насельніцтва быў забаронены доступ у пэўныя публічныя прасторы. На думку ліберальных публіцыстаў, ЛГБТ-камуна — гэта першая ахвяра хвалі ксенафобіі, якую падтрымлівае дзяржава і пад якую хутка трапяць усе, хто не адпавядае крытэрам польскага патрыёта-клерыкала. Можна нават наткнуцца на панічныя тэксты пра агонію дэмакратычнай сістэмы ў краіне.

Насуперак падобным заявам, пракуратура ўжо пачала справу па артыкуле «Прапаганда нянавісці» супраць рэдакцыі выдання «Gazeta Polska», якая агітуе за стварэнне зонаў, і нават надрукавала адмысловы тэматычны дадатак. Аднак наўрад ці судовыя працэсы над гамафобамі будзе так проста выйграць. У кансерватараў на такія выпадкі ёсць артыкул 18 Канстытуцыі, які абавязвае дзяржаву абараняць інстытут сям'і і дзяцінства.

Калі сярод юрыстаў пакуль няма згоды наконт зонаў, то ў цэху палітычных назіральнікаў па гэтым пытанні назіраецца амаль поўнае адзінства. Практычна ўсе палітычныя каментатары згодныя: тэма пагрозы ЛГБТ становіцца адной з галоўных фішак цяперашняй парламенцкай кампаніі кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS). Піяршчыкі PiS дасылаюць выбаршчыку простае пасланне пра неабходнасць абароны традыцыйных каштоўнасцяў ад геяў, адзіным гарантам якой можа быць выключна PiS. Каб дагрукацца да электарату, актыўна ўжываецца маніпуляцыйны (аднак вельмі эфектыўны) прыём, у рамках якога ўсе прадстаўнікі ЛГБТ скопам запісваюцца ў педафілы.

**Падчас кампаніі ў Еўрапарламент некаторыя кандыдаты PiS ужо абяцалі выбаршчыкам ператварыць усю Польшчу ў рэгіён, вольны ад ЛГБТ. Калі PiS на кастрычніцкіх выбарах атрымае канстытуцыйную большасць, нішто не перашкодзіць адкалоць такі нумар**

У прынцыпе, можна дапусціць, што апісаная піяр-стратэгія дазволіць партыі Яраслава Качыньскага зноў атрымаць большасць у Сейме пасля кастрычніцкіх выбараў. Незразумела толькі, дзе мяжа гамафобнага куражу польскіх кансерватараў. Увесну, падчас кампаніі ў Еўрапарламент, некаторыя кандыдаты PiS ужо абяцалі выбаршчыкам з часам ператварыць усю Польшчу ў рэгіён, вольны ад ЛГБТ. І, дарэчы, калі PiS на кастрычніцкіх выбарах атрымае канстытуцыйную большасць (а гэта цалкам рэальна), то нішто не перашкодзіць ёй адкалоць такі нумар.

# Чалавек, каньяк і торт

Алег НОВІКАЎ

**З нагоды 250-й гадавіны нараджэння Напалеона Банапарта, што святкавалася 15 жніўня, сталі вядомыя новыя аспекты, якія тычацца гэтай выбітнай асобы.**


Фота www.wikipedia.org

Цяперашні юбілей Напалеона праходзіць без асаблівых скандалаў, што нельга сказаць пра мінулы. Напярэдадні 200-й гадавіны нараджэння Напалеона ў 1969 годзе ўсе французы былі ўзрушаныя праз кнігу «Англічане, вярніце нам Напалеона». Яе аўтар, Жорж Рэтыф, даводзіў, што сапраўдны Напалеон пахаваны ў Лондане. Што да цела Напалеона, якое ляжыць у парыжскім Доме інвалідаў, то яно нібыта належала аднаму з гвардзейцаў-целаахоўнікаў імператара, якога і падсунулі французам.

Тэорыя аказалася настолькі папулярнай, што з часам да справы давялося падключыцца французскаму ўраду. Міністэрства культуры з дапамогай шэрагу гісторыкаў, якія прааналізавалі дакументы аб ускрыцці труны з Напалеонам у 1840 годзе, давяло, што Жорж Рэтыф памыліўся.

250-я гадавіна нараджэння Напалеона не багатая на такога кшталту сенсацыі. Хутчэй, можна казаць, што гісторыкі разбурылі шэраг папулярных міфаў, якія тычыліся адной з самых уплывовых асобаў у гісторыі Еўропы.

Пачаць можна з нізкага росту, які прыпісваюць імператару. Адсюль, дарэчы, і вядомы выраз пра комплекс Напалеона. Нездарма карыкатурысты любілі выяўляць французскага імператара як карліка, які носіць велізарны капялюш. Магчыма, у дачыненні да кагосьці гэта формула і слушная, аднак не для Банапарта. Апошнія публікацыі даводзяць, што рост Напалеона быў прыкладна 170 сантыметраў, што цалкам нармальна для той эпохі. На ўспрыняцце росту Банапарта ўплывала яго атачэнне — велізарныя гвардзейцы, а таксама асаблівасці складу цела імператара: Напалеон ад нараджэння меў вялікую галаву.

Цяперашнія гісторыкі заклікаюць забыць распаведы пра Напалеона як вялікага каханка. Гэты міф грунтуецца на шматлікіх раманах Банапарта і яго выслоўі: «Я бяру жанчынаў, каб забыць пра іх». Міф канчаткова быў пахаваны ў 2004 годзе адным брытанскім каналам, які знайшоў уладальніка пеніса Напалеона. Артэфакт захаваўся да нашых дзён, паколькі быў адрэзаны падчас ускрыцця нябожчыка на вачах у 17 сведак. Затым орган знаходзіўся ў сям'і нейкага святара, пакуль у 1924 годзе яго не прадалі ў ЗША ў прыватны музей. Як сцвярджаюць даследчыкі, мужчынская годнасць Напалеона была вельмі сціплых памераў — менш за чатыры сантыметры ў нармальным стане.

Наступны міф пра Напалеона — быццам характэрная яму фобія адносна катоў, якіх ён чамусьці вельмі не любіў. Лічылася, што гэта было праявай яго прыроды працагаліка, які бачыў у катах млявых і лянотных істотаў. Таксама жывёлы, быццам, нагадвалі яму ліберальных філосафаў. Цяпер дакладна вядома, што гэта — паклёп. Ніякіх дакументаў наконт кепскага стаўлення Напалеона да катоў не існуе.

Затое высвятляецца, што ледзь не да пачатку Вялікай французскай рэвалюцыі Напалеону былі ўласцівыя сантыменты наконт незалежнасці Корсікі ад Францыі. Дарэчы, у 1769 годзе, калі ён нарадзіўся, Корсіка якраз і стала часткай Францыі. Аднак з часам буйная кар'ера ў войску, прыход да ўлады і імператарскі тытул ператварылі яго ў патрыёта непадзельнай Францыі. Тое, што да 1769-га радзіма Напалеона належала Генуі, стала сапраўдным падарункам для італьянскіх фашыстаў. Яны лічылі Банапарта італьянцам і ахвотна параўноўвалі з Мусаліні.

Але нават не будучы катафобам і мегакаханкам, Напалеон усё роўна застаецца вялікім вайскоўцам. Яму прыпісваюць як найменш 40 вялікіх бітваў, з якіх ён выходзіў пераможцам. Аднак гісторыкі (і сам Напалеон дапускаў гэта) усё ж лічаць сапраўдным прарывам эпохі Напалеона не Аўстэрліц або бітву пад Пірамідамі, а Грамадзянскі кодэкс, прыняты напачатку XIX стагоддзя — фундаментальны заканадаўчы акт Францыі, які ўяўляе сабой маштабную кадыфікацыю грамадзянскага права. Кодэкс даў магутны штуршок для падобнага прававога працэсу ў многіх краінах свету.

Яшчэ адна з напалеонаўскіх навацый, пра якую забыліся, — закон пра правабаковы рух на еўрапейскіх дарогах. У тым ліку за кошт гэтага ў Англіі, дзе захаваўся левабаковы рух, замацавалася калектыўная думка пра асобны, нееўрапейскі шлях Альбіёну, што праз 200 гадоў зробіць свой унёсак у з'яўленне руху за выхад краіны з ЕС.

Што тычыцца нашага рэгіёну, то для нас самая галоўная спадчына Напалеона — гэта, напэўна, «банапартызм» — стыхійна адкрытая імператарам формула кіравання аўтарытарнага харызматычнага лідара, заснаваная на лавіяванні паміж класамі і палітычнымі групоўкамі. Ва ўмовах адсутнасці традыцый дэмакратычнай культуры, такая мадэль была рэалізаваная ў шэрагу краінаў былога СССР. І пакуль, падаецца, што дэфіцыту ахвочых выбіцца ў напалеоны ў нас яшчэ доўга не будзе.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Анатоль Бібілаў



Падчас адзначэння 11-й гадавіны расійска-грузінскага канфлікту кіраўнік Паўднёвай Асеціі заявіў, што рэспубліка павінна ўвайсці ў склад Расіі для аднаўлення «гістарычнай справядлівасці».

«Калі краіна ўвойдзе ў склад Расіі, можна будзе пачаць працу па аб'яднанні Асеціі без падзелу на Паўночную і Паўднёвую. Для асецінскага народа гэта вельмі важна і жыццёва неабходна», — лічыць Бібілаў.

Ідэя аб'яднання Паўднёвай і Паўночнай Асеціі ў аўтаномію ў складзе Расіі — не новая. Яна гучыць час ад часу, пачынаючы з 2008-га, калі Расія прызнала незалежнасць Паўднёвай Асеціі. У тым, што гэтая незалежнасць фіктыўная, мала хто сумняваецца, паколькі Масква аказвае Цхінвалі ваенную і фінансавую дапамогу, тут дзейнічае заканадаўства Расіі і гэтак далей. Тым не менш, пакуль пра інтэграцыю ў склад Расіі гаворкі не было.

Тое, што пра ідэю пачалі казаць, — не выпадковасць. Ёсць меркаванне, што ўключэнне ў склад РФ новага суб'екта можа запатрабаваць карэкцыроўкі Канстытуцыі, і, магчыма, яе новай рэдакцыі, што, у сваю чаргу, дасць Пуціну магчымасць абірацца і пасля 2024-га, калі скончыцца яго кадэнцыя.

Наколькі аўтары гэтай версіі маюць рацыю, напэўна, можна будзе меркаваць бліжэй да 2024 года. У любым выпадку, нечаканая актуалізацыя ідэі далучэння Паўднёвай Асеціі да Расіі азначае, што на беларускім напрамку ў Крамля з інтэграцыяй справы ідуць не надта добра.

### Філіпэ Ньюсі



Ёсць надзея, што прэзідэнту Мазамбіка ўдалося скончыць адзін з самых старых грамадзянскіх канфліктаў на Чорным кантыненце. Гаворка пра супрацьстаянне паміж урадам Мазамбіка і апазіцыйнай мілітарнай групоўкай Renamo, падчас якога былі забітыя больш за мільён чалавек.

Вайна пачалася яшчэ ў далёкім 1976 годзе, калі Мазамбік атрымаў незалежнасць і заявіў пра далучэнне да сацыялістычнага блоку. У адказ Паўднёвая Афрыка дапамагла мазамбікскай апазіцыі стварыць вайсковыя фармаванні Renamo, што пачалі наступ. На пачатку 1980-х Renamo ўдалося дамагчыся шэрагу перамог і стварыць непадкантрольную ўраду партызанскую зону, у якую ўваходзіла 20–25% усёй тэрыторыі краіны. Перабудова ў СССР і лібералізацыя ў Паўднёвай Афрыцы пазбавілі бакі канфліктаў старых спонсараў, і прымусілі ў 1992-м заключыць мірнае пагадненне, паводле якога Renamo ператваралася ў палітычную партыю.

Аднак да ўлады апазіцыю не дапусцілі, і паступова ў яе шэрагах пачала набываць папулярнасць ідэя вяртання да супраціву. У красавіку 2013 года Renamo аднавіла вайсковыя аперацыі, хаця гэтым разам іх маштаб быў не такі вялікі. Тым не менш, падавіць інсургентаў не атрымалася, і ў выніку пры дапамозе ААН пачаліся перамовы, якія скончыліся падпісаннем мірнай дамовы, што прадугледжвае разбраенне паўстанцаў і правядзенне свабодных выбараў 15 кастрычніка.

Што тычыцца асабіста Філіпэ Ньюсі, то ў яго з'явіліся някепскія шанцы атрымаць Нобелеўскую прэмію за мір.

### Джозеф Байдэн



Яшчэ ўчора адзін з лідараў Дэмакратычнай партыі ЗША, якому зараз 76 гадоў, лічыўся вундэрвафе дэмакратаў у барацьбе супраць Трампа на прэзідэнцкіх выбарах 2020-га. Стары палітык, які паспеў папрацаваць віцэ-прэзідэнтам у часы Абамы, сімвалізуе для шмат каго добрую старую Амерыку, у якой мірна ўжываліся прадстаўнікі розных расаў і аматары розных палітычных канцэптаў. У выніку паводле ўсіх апытанняў Байдэн абыходзіў Трампа. І вось напярэдадні фактычнага старту кампаніі ў Байдэна выявіліся відавочныя праблемы з памяццю. Толькі за апошні тыдзень ён двойчы заблытаўся. Спачатку пераблытаў інцыдэнты са стральбой у школах ЗША 2012 і 2018 гадоў, а потым зблытаў дзяцей з «багатых» і «белых» сем'яў.

Шэраг памылак і агаворак Байдэна прымусілі дэмакратаў сумнявацца ў яго здольнасці стаць супернікам Трампа. Пры гэтым ніякіх іншых фігур такога ўзроўню ў дэмакратаў няма. Берні Сандэрс і Элізабет Уорэн — другія па папулярнасці асобы сярод дэмакратаў, — належаць да левага крыла партыі і наўрад ці змогуць аб'яднаць вакол сябе большасць амерыканцаў.

Ва ўсёй гэтай гісторыі ёсць яшчэ адзін адмоўны для дэмакратаў момант. Як толькі Байдэн заявіў пра намер балатавацца ў Белы дом, Трамп выказаў сумневы ў яго псіхічным здароўі.

# Айцец Іаан Наўроцкі: балаховец з ордэнам «Чырвонай зоркі»?



Алесь КІРКЕВІЧ

**Пра незвычайны лёс бацюшкі Іаана з Ружанаў пісалі і раней. Сюжэт шмат у чым хрэстаматыйны: святар у гады нямецкай акупацыі ратуе савецкіх ваеннапалонных пад страхам смерці. Расійскі фільм «Поп» з Сяргеем Макавецкім у галоўнай ролі — акурат пра такі выпадак. Аднак гісторыя Іаана Наўроцкага зусім не такая простая.**

Іван Уладзіміравіч Наўроцкі нарадзіўся ў 1900 годзе ў Славянску Харкаўскай губерні. Наўроцкія — вядомая на Харкаўшчыне сям'я святароў. Бацька нашага героя служыў да Кастрычніцкага перавароту па роз-



Партрэт Івана Наўроцкага з дакумента пра амністыю, 1922 год

ных вёсках, дзядзька ж, Рыгор Наўроцкі, у 1904-м быў настаяцелем Васкрасенскай царквы ў самім Славянску. Прыйшоў 1917 год, а за ім Грамадзянская вайна. Бацька Івана Уладзіміравіча ды малодшы брат былі расстраляныя бальшавікамі.

У часы Савецка-польскай вайны Іван Наўроцкі быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Вядома, што ў красавіку 1920-га ён знаходзіўся ў Екацярынадары ў складзе 3-га лёгкага артылерыйскага дывізіёну 21-й дывізіі. Удзельнічаў у легендарным наступе на Варшаву, аднак наступ захлынуўся, а сам Наўроцкі трапіў у палон. Зрэшты, хто ведае? Улічваючы паходжанне, а тым больш лёс бацькі і брата, — мог і сам здацца. Але гэта здагадкі.

## У лясной канцэсіі Булак-Балаховіча

Тут і пачынаюцца «белыя плямы» ў яго біяграфіі. У 1923-м ён атрымлівае станоўчы адказ з Паўнамоцнага Прадстаўніцтва СССР у Варшаве адносна... сваёй амністыі. Была такая практыка: ад 1922 года кожны ўдзельнік «белых» ці любых іншых антысавецкіх фарміраванняў мог атрымаць амністыю і вярнуцца ў СССР (гэта не тычылася толькі кіраўнікоў, накшталт Махно, Пятлюры або Савінкова). Але навошта амністыя былому палоннаму чырвонаармейцу?

Справа ў тым, што акурат за кошт палонных чырвонаармейцаў вельмі часта фарміраваліся сілы апанентаў бальшавікоў, асабліва напрыканцы вайны. Практыкавалі тое і Барыс Савінкоў, і Станіслаў Булак-Балаховіч, рыхтуючыся да свайго апошняга «Палескага паходу» ўвосень 1920 года. І тут зноў цікавае «супадзенне». Паводле ўспамінаў унучкі айца Іаана, Кацярыны Міцянок, яе дзядуля пасля Рыжскай дамовы 1921 года працаваў на лесанарыхтоўчых працах у Белавежскай пушчы.

Як вядома, менавіта ў гэты час Польшча дала Балаховічу ў пушчы лясную канцэсію, а таксама дазволіла ўзяць сваіх хлопцаў з лагераў для інтэрнаваных, куды тыя трапілі пасля няўдалага «Палескага паходу», перайшоўшы пры адступленні польскую мяжу. Балахоўцаў «бацька» рассяліў у раёнах Белавежы, Гайнаўкі і Нараўцы. Дык вось, Іван Наўроцкі ў 1923 годзе працаваў акурат у Нараўскім надлясніцтве (Nadleśnictwo Narewkowskie Lasów Państwowych). Канешне, мы маем толькі ўскосныя доказы службы Наўроцкага ў фарміраваннях Балаховіча. Але адкуль узяцца іншым? Захоўваць дакументы ці фотаздымкі такога характару было занадта небяспечна.

## Ад палясоўшчыка да святара

Новая мяжа раздзяліла Івана Наўроцкага з маці. Магчыма, менавіта з гэтай прычыны яму была патрэбная дакументальна зацверджаная амністыя ды віза ў СССР, якую ён атрымаў у 1923 годзе. Ці скарыстаўся ён ёй? Невядома. Вядома, што жыць і працаваць ён застаўся на тэрыторыі Польшчы, у лясніцтве ў Белавежскай пушчы. Праца ў тыя часы ў польскай дзяржаве — далёка не апошняя. З заробкам у 450 злотых (на 1929 год) Наўроцкі мог сабе дазволіць паступіць на тэалагічнае аддзяленне Варшаўскага ўніверсітэта, жыць у сталіцы, а на вакацыі ездзіць дадому і працаваць.

Падчас вучобы ў Варшаве Іван Уладзіміравіч пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай — Лідзіяй Іванаўнай, дачкой праваслаўнага святара, які служыў пад Беластокам. У 1931 годзе яны ажаніліся. Падобныя «карпаратыўныя» шлюбы — старая, яшчэ з дарэвалюцыйных часоў, традыцыя. Ад 1934 года Наўроцкі з'яўляўся чальцом «Брацтва праваслаўных багасловаў у Польшчы». Да 1937-га айцец Іаан служыў у Камянцы пад Брэстам, а з 1937-га па 1961-ы, да смерці, быў настаяцелем Св.-Петра-Паўлаўскай царквы ў Ружанах.



**Айцец Іаан (стаіць чацвёрты злева) у 1953 годзе**

Паводле ўспамінаў родных, у 1939-м, пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР, да Наўроцкіх дайшлі чуткі, што іх збіраюцца высяляць у аддаленыя раёны «чырвонай імперыі», як «сацыяльно чужды элемент». Што рабіць? Каб зберагчы, прынамсі, жонку ды чатырохгадовую дачушку, айцец Іаан пайшоў на крайні для святара крок: фіктыўны развод. Дарэчы, у чэрвені 1940-га архіепіскап Палескі Аляксандр узнагародзіў Наўроцкага залатым наперсным крыжам, але атрымаў яго святар толькі праз два гады.

## У храме — лагер, за царскімі варотамі — аперацыйная...

У 1941-м, падчас імклівага наступу Вермахта, ваколіцы Ружанаў былі наўпрост высланыя целамі забітых чырвонаармейцаў. Хто будзе іх хаваць? Іх злучэнні ў паніцы адступалі або разбягаліся, мясцовыя жыхары баяліся, а немцам было дакладна не да гэтага. Айцец Іаан, ведаючы нямецкую мову, звярнуўся да афіцэраў наконт дазволу на пахаванне. Прычыну знайшоў вельмі прагматычную: калі трупы не хаваць — пачнецца эпідэмія, а значыць, захварэюць і самі немцы. Дазвол ён атрымаў. Так пачалася яго гісторыя «супрацы з акупантамі».

Далей — болей. Наўроцкі пераўтварыў царкву ў... лагер для палонных. У самым храме знаходзіліся палонныя, за царскімі варотамі — аперацыйная, лазарэт для параненых. Будынак і прылеглая тэрыторыя ахоўваліся немцамі, але гэта лепш, чым звычайны кавалак поля, абгароджаны калючым дротам. Разам з матушкай, айцец Іаан арганізаваў пастаяннае гарачае харчаванне для палонных, а прыхаджанам загадаў несці старую бялізну, каб выкарыстоўваць яе як бінты.

Цікава, што аперацыі ў царкве-лагеры праводзіў ваеннапалонны — ваенурач 3-га рангу Віктар Лекамцоў, які пазней збег і далучыўся да партызанаў. У лютым 1943-га, ужо ў лясах, ён у экстрэмальных умовах ратаваў кіраўніка партызанскага атраду «Сокал» і вядомага савецкага дыверсанта Кірылу Арлоўскага. Наточаная напільнікам і дэзынфекаваная ў кіпені піла, якой ваенурач праводзіў аперацыю без анестэзіі, дагэтуль захоўваецца ў музеі ў Маскве.

З Наўроцкім у Лекамцова склаліся цёплыя адносіны, захаваліся іх ужо паваенная перапіска. Сам жа Віктар Аляксеевіч стаў заслужаным урачом РСФСР, пра яго пісалі артыкулы і здымалі фільмы.

## У закладнікі прапанаваў сябе, жонку і дачок

Быў і такі выпадак: двое савецкіх акружэнцаў абстралялі жаўнера Вермахта. У падобнай сітуацыі, калі ўзгадаць прынцып калектыўнай адказнасці, што працаваў на вайне, усе ружанскія мужчыны апынуліся ў небяспецы. Але і тут айцец Іаан не разгубіўся: пайшоў у камендатуру і паручыўся за ўсіх жыхароў мястэчка, — маўляў, яны не пры справах. А ў якасці гарантыі сваіх слоў прапанаваў у закладнікі... сваю сям'ю: сябе, жонку і ўжо дзвюх дачок (шасці і аднагадовую). На тым справа і скончылася — святару паверылі.

Калі дапамога савецкім ваеннапалонным была легальнай (немцы пра гэта ведалі ды далі дабро), то дапамога яўрэям, якія хаваліся па сутарэннях былога палацу Сапегаў — не. Роўна як і дапамога двум параненым жыхарам вёскі Байкі, спаленай карнікамі, якія з апёкамі прыйшлі да святара. Ёсць звесткі, што айцец Іаан даў прытулак дзвюм жонкам сваіх былых калегаў па ўніверсітэце: мужа адной з іх забілі немцы, іншай — партызаны.

## Трагічны лёс дачкі і загадкавая смерць

Пасля вяртання Саветаў у 1944-м Іаана Наўроцкага не забылі. Святара неаднойчы выклікалі на допыты рознага характару: ці быў у антысавецкіх арганізацыях, як трапіў на тэрыторыю Польшчы і іншае. Але не арыштоўвалі. Затое стварылі цяжкасці дзецям. Старэйшай дачцэ, Лідзіі, занізілі адзнакі падчас заканчэння школы, каб не атрымала медаль, а ў далейшым мела цяжкасці пры паступленні ў Ленінград.

Лёс малодшай наогул трагічны. Мілу не залічылі ў Гродзенскі медыцынскі, бо ў анкеце яна ўказала, што бацька — святар. Дзяўчына ўжо мела парок сэрца, а пасля гісторыі з непаступленнем дадалася яшчэ нервовыя захворванні — памерла ва ўзросце 19 гадоў. Літаральна праз два месяцы, увосень 1961-га, загінуў пры нявысветленых абставінах і айцец Іаан. Наезд машыны — нячастая з'ява для невялікага мястэчка. У Ружанах казалі, што «усё было загадзя спланавана», але родныя адмаўляліся верыць. Матушка, Лідзія Наўроцкая, пражыла найдаўжэй — 83 гады. Яе старшая дачка Ліда нарадзіла двух дзетак.

## Таямніца пад «Чырвонай Зоркай»

Расповед пра незвычайны і нават гераічны лёс святара можна было б скончыць, але... Пасля трагічнай смерці айца Іаана родныя выявілі, што акрамя царкоўных узнагародаў, бацюшка меў яшчэ і ордэн «Чырвонай Зоркі». У сям'і вылучылі версію, што ўзнагарода атрыманая за ратаванне і дапамогу савецкіх ваеннапалонных, але гэта малаверагодна. Якая матывацыя была ў святара хаваць ад усіх падобную ўзнагароду, якую меў далёка не кожны афіцэр рэгулярнай арміі, што штурмаваў Кёнігсберг ці дайшоў да Берліна?

Зазвычай, святарам у гады Другой сусветнай вайны ў СССР выдавалі ўзнагароды «За шчырую працу ў гады Вялікай Айчыннай Вайны 1941–1945 гг.» Часам яны маглі атрымаць таксама медалі «За абарону Ленінграда» ці «За абарону Масквы». Зрэдку маглі атрымаць медаль «Партызану Айчыннай Вайны II ступені». У выключных выпадках, як тое было з Патрыярхам Маскоўскім і Усяе Русі Алексіем — ордэн «Працоўнага Чырвонага Сцягу». Даць святару ордэн «Чырвонай Зоркі», баявую (!) узнагароду, адно за дапамогу палонным — нешта надзвычайнае.

Ёсць іншыя варыянты. Ордэн мог быць атрыманы за ўдзел у нейкай баявой аперацыі ў гады Другой сусветнай вайны, пра абставіны якой не было прынята казаць. Альбо, калі браць усе варыянты, айцец Іаан мог дзейнічаць у інтарэсах савецкіх спецслужбаў і да 1939 года — гэта таксама тлумачыла б маўчанне пра пачэсную ўзнагароду нават у сямейным коле. Ёсць і яшчэ варыянт: з 1944-га па 1957-ы ордэн выдаваўся кадравым ваенным (у тым ліку ГРУ), супрацоўнікам унутраных органаў і дзяржбяспекі за выслугу 15 гадоў у войску ці органах. Але ж — толькі дзеючым і кадравым.

Ні ў якім разе мы зараз не вешаем ярлыкоў: «агент», «супрацоўнік МДБ» і іншае — для гэтага няма падстаў. Наўпрост, без пэўных дэталяў — як тое з палонам і ўдзелам у антысавецкіх фарміраваннях у 1920-м, з таямнічым ордэнам «Чырвонай зоркі» — партрэт Івана Уладзіміравіча Наўроцкага быў бы няпоўны. Зрэшты, магчыма, абставіны яго жыцця і смерці некалі стануць больш яснымі для яго нашчадкаў. Пакуль жа дзверы архіваў КДБ зачыненыя, мы можам адно высоўваць версіі.

**Фотаздымкі з архіву І. Наўроцкага з прыватных калекцыяў**


Беларускія сяляне, 1930-я гады


Нарач, 1930-я гады


Косава, 1930-я гады

# Палітычная нястраўнасць

## Выступленні беларускіх сялян супраць польскай улады ў 1920–1930-я гады


Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У міжваеннае дваццацігоддзе на тэрыторыі Заходняй Беларусі адбыўся шэраг выступленняў супраць польскай улады. Яны былі выкліканы як цяжкасцямі жыцця беларускага насельніцтва, так і дзейнасцю прасавецкіх элементаў. Разам з тым варта адзначыць, што памылкі міжваенных польскіх уладаў спрыялі эскалацыі сітуацыі на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай.**

### Абараніць «Грамаду»

У адпаведнасці з Рыжскай мірнай дамовай, заключанай 18 сакавіка 1921 года, польскія ўлады бралі на сябе абавязальніцтвы даваць беларусам свабоду веравызнання, развіцця нацыянальнай культуры і мовы. Аднак у 1920–1930-я гады з выкананнем гэтых умоваў былі вялікія праблемы. Пасля «травеньскага перавароту» 1926 года афіцыйная Варшава ўзяла накірунак на правядзенне жорсткай асіміляцыйнай палітыкі на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў. Эканамічныя рэформы, на жаль, не давалі пазітыўных вынікаў. Усё гэта правакавала напружанасць на тэрыторыі Заходняй Беларусі, што часам пераходзіла ў адкрытае супрацьстаянне паміж беларускімі сялянамі і польскай паліцыяй і адміністрацыяй.

У 1927 годзе Варшава забараніла дзейнасць самай масавай беларускай арганізацыі — «Беларускай сялянска-работніцкай грамады». Нягледзячы на тое, што бальшавікі ўплывалі на дзейнасць БСРГ, менавіта яна актыўна абараняла нацыянальна-культурныя правы беларускіх грамадзян Другой Рэчы Паспалітай. Напрыклад, арганізацыя змагалася за вызваленне сялян ад падаткаў, выступала за 8-гадзінны працоўны дзень, імкнулася дапамагчы беспрацоўным. Пра папулярнасць «Грамады» сведчаць білеты чальцоў БСРГ з шасцізначнымі парадкавымі нумарамі.

У адказ на забарону арганізацыі 3 лютага 1927 года ў Косава адбылася антыўрадавая дэманстрацыя. Людзі з навакольных вёсак сабраліся на рынкавай плошчы і патрабавалі адмяніць рашэнне аб забароне БСРГ. Хутка на мітынгу з'явіліся чырвоныя сцягі і камуністычныя лозунгі «Прэч вайну з СССР» і «Няхай жыве Кампартыя Заходняй Беларусі». Паводле падлікаў польскіх уладаў, на сходзе было каля 1,5 тысячы чалавек. Польскія паліцыянты, пабачыўшы, што сітуацыя выходзіць з-пад кантролю, пачалі страляць у натоўп. У выніку, шэсць чалавек загінулі, а некалькі дзясяткаў сялян былі паранены. Сярод забітых былі жыхары вёскі Альба Мікола Таптала, Сяргей Верабей, а таксама жыхары іншых вёсак Косаўскага павета Міхаіл Еўтух, Пётр Гаўрус, Іван Кучук, І. Ракевіч.

Пахаванне гэтых людзей ператварылася ў чарговую акцыю пратэсту супраць польскіх уладаў. Пры Саветах магілы сялян, якія загінулі ў лютым 1927 года, зрабілі «сімвалам барацьбы супраць панскай улады», а ў 1966 годзе ў Косаве з'явіўся абеліск у памяць «Косаўскага расстрэлу 1927 года».

### Супраць некарысных рэформаў

Вялікую ролю ў арганізацыі антыўрадавых выступленняў у Заходняй Беларусі мела КПЗБ. Яе актывісты, у большасці, былі агентамі савецкай выведкі. У іх задачу ўваходзіла стварэнне «рэвалюцыйнай сітуацыі» на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай. І тут на руку бальшавікам гралі эканамічныя цяжкасці ва ўсходніх польскіх ваяводствах, а таксама жорсткая палітыка «санацыйных» уладаў, якія, замест таго, каб дамаўляцца з нацыянальнымі меншасцямі, імкнуліся іх паланізаваць.


Магіла ў Навагрудку

У 1931 годзе ў вёсцы Баранава Гарадзенскага павета выступілі супраць рэалізацыі польскай зямельнай рэформы, якая праяўлялася ў распаўсюджванні хутароў. Землямер, які прыехаў у населены пункт, так і не змог прыступіць да працы. У выніку польскія ўлады вымушаны былі адправіць у населены пункт атрады рэзерву польскай паліцыі, які «супакоіў» сялян і ўзяў сітуацыю пад кантроль.

У сакавіку 1932 года ў вёсцы Асташына Навагрудскага павета беларускія сяляне выступілі супраць польскай улады. «Бунт» быў звязаны з тым, што мясцовы асаднік і памешчык набывалі сялянскія зямельныя надзелы, канфіскаваныя за нявыплату падаткаў. У вёску прыехалі супрацоўнікі польскай паліцыі, якія арыштавалі арганізатараў выступлення. Аднак сяляне ўзялі ў рукі зброю і адбілі сваіх людзей.

Праўда, сілы былі не роўнымі. Хутка польскім паліцэйскім удалося ліквідаваць супраціў і арыштаваць «паўстанцаў». Адбыўся надзвычайны суд — і 5 ліпеня 1932 года беларусы Іван Бахар, Аляксандр Гаўрош, Аляксандр Малец, Уладзімір Стасевіч былі прысуджаныя да смерці ды праз два дні павешаныя. Пазней целы няшчасных пахавалі на могілках у Навагрудку. Яшчэ пяць удзельнікаў «Асташынскага паўстання» атрымалі пажыццёвае турэмнае зняволенне, а некалькі дзясяткаў беларускіх сялян накіраваліся ў турму на 5 гадоў.

У ліпені 1933 года ў вёску Ляплёўка на Кобрыншчыне прыбыў сяквестр, якога ахоўвала некалькі паліцэйскіх. З пэўнага моманту прадстаўнікі польскай улады вымушаныя былі з'яўляцца ў некаторых беларускіх вёсках «з аховай». Мясцовыя жыхары пабілі паліцыянтаў, але тыя забілі камуніста Лявона Баганьскага.

Пазней у вёску прыбыў узмоцнены атрад паліцыі (каля 30 супрацоўнікаў). Аднак гэта не дапамагло. Жыхары некалькіх вёсак Кобрыншчыны сабраліся і разграмілі пасяленні польскіх асаднікаў. Там «паўстанцы» захапілі зброю і напалі на паліцэйскі ўчастак у вёсцы Навасёлкі. У адказ польскія ўлады вымушаныя былі накіраваць узмоцненыя падраздзяленні паліцыі з Брэста-на-Бугу, якія разбілі «паўстанцаў». На судзе, які праходзіў у Кобрыне, чальцы КПЗБ, што ўдзельнічалі ў «паўстанні», атрымалі жорсткія прысуды. Пры гэтым была арыштаваная сакратар Брэсцкага акружнога камітэта КПЗБ Рэгіна Каплан. Яна атрымала 15 гадоў турэмнага зняволення. У 1967 годзе ў Навасёлках савецкія ўлады паставілі памятны знак.

У жніўні таго ж 1933 года супраць польскіх уладаў выступілі жыхары вёскі Вялікія Радванічы. «Паўстанцамі» кіравалі добра падрыхтаваныя людзі. Сяляне не толькі абрабавалі сядзібы асаднікаў, але і знішчылі тэлеграфную лінію. У выніку ўладам прыйшлося перавесці Кобрынскі павет на асаднае палажэнне, і толькі пасля гэтага ўдалося супакоіць «паўстанцаў».

### «Волю нарачанскім рыбакам»

Аднак найбольш гучным было выступленне нарачанскіх рыбакоў у 1935 годзе. Справа была ў тым, што яшчэ ў 1932 годзе польскія ўлады прынялі так званы «рыбны закон», паводле якога ўсе рэкі і азёры на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай нацыяналізаваліся. Зразумела, што такія захады не задавальнялі жыхароў Заходняй Беларусі.

Возера ў Нарачы было перададзена пад упраўленне дырэкцыі Дзяржаўных лясоў. Пазней мясцовых жыхароў паставілі перад фактам: Нарач здаецца ў арэнду землеўласніку Яблонскаму. Пры гэтым сялянам з навакольных вёсак прапанавалі ісці на працу да пана. Пік супраціву прыйшоўся на лета 1935 года, калі нарачанцы адмовіліся ад супрацы з панам Яблонскім і сталі лавіць рыбу, як раней. Новы гаспадар возера выклікаў паліцыю, якая пачала канфіскоўваць лодкі і рыбу. Аднак жонкі рыбакоў напалі на «служкаў парадку» і перакулілі іх лодку.

У рэгіён прыехалі віленскі ваявода і павятовы стараста, якія агітавалі беларускіх сялян ісці на працу да Яблонскага. Аднак гэта не дапамагло: у агульнай забастоўцы ў пачатку 1936 года ўдзельнічалі жыхары вёсак Наносы, Падрэзы, Купа і іншых. Сяляне захапілі базу Яблонскага, якая знаходзілася паміж вёскамі Мікольцы і Пасынкі. Паліцыя затрымала некалькіх «паўстанцаў», аднак улады вымушаныя былі пайсці на саступкі. Яны пагадзіліся на тое, што мясцовыя жыхары ловяць рыбу сваімі невадамі, а пазней прадаюць яе дырэкцыі Дзяржаўных лясоў па 50 грошаў за кілаграм. Нарачане таксама атрымалі права прадаваць улоў і ў іншых месцах. «Леснікі» заплацілі сялянам за канфіскаваную рыбу.

У жніўні 1938 года Крэмль вырашыў ліквідаваць Кампартыю Польшчы і яе структурнае падраздзяленне — КПЗБ. Пачынаючы з 1937 года на тэрыторыі БССР савецкія ўлады актыўна знішчалі сваіх памагатых з ліку «кэпэзэбоўцаў», абвінаваціўшы іх у супрацоўніцтве з польскай выведкай. Праўда, непасрэдна перад 17 верасня 1939 года шматлікія савецкія дыверсанты з ліку былых «заходнебеларускіх камуністаў» перайшлі «рыжскую мяжу» з мэтай «дапамагчы ўз'яднанню Заходняй Беларусі з дружнай сям'ёй савецкіх народаў».

На вялікі жаль, улады міжваеннай Польшчы так і не змаглі выпрацаваць эфектыўную нацыянальную палітыку ва ўсходніх, не польскіх рэгіёнах Другой Рэчы Паспалітай. Да таго ж эканамічныя рэформы ў гэтым рэгіёне праводзіліся без уліку яго асаблівасцяў, а супраціў часцей за ўсё падаўляўся сілай. Пры гэтым спробаў дамовіцца амаль не рабілася. Гэтыя супярэчнасці актыўна выкарыстоўваліся чальцамі КПЗБ і агентамі савецкай выведкі, якія вербавалі незадаволеных «панскай уладай» і выкарыстоўвалі іх у сваіх мэтах як у міжваенны час, так і ў верасні 1939 года.

**Фота з архіва аўтара**

# Журавы і журавіны Мёраў

Аляксей ЧУБАТ

**На Мёршчыне мясцовая ўлада і грамадскасць пачалі працу над праектам па ўстойлівым развіцці. На працягу трох гадоў жыхары плануюць зрабіць сваю малую радзіму лепшай.**

Мёрскі край мяжуе з больш вядомай у турыстаў Браслаўшчынай. Таму, напэўна, і не змог яшчэ ўголас заявіць пра сябе. Рэкрэацыйную недаацэненасць Мёрскага краю пачынаеш разумець, калі заглыбляешся ў фактуру раёна. Тут цішыня і спакой: разам з раённым цэнтрам — Мёрамі — і гарадком Дзісна ва ўсім краі пражывае няпоўных 20 тысяч жыхароў. Іх спакой аберагаюць (увага!) каля 100 азёр і лясы, якімі пакрытая пятая частка раёна. Частка Мёршчыны — балоты, з якіх найбольш уражвае медытатыўная Ельня. Балота займае дзявятую частку раёна!

Балота Ельня хавае ў сабе 9000 гадоў гісторыі — такі яго ўзрост. А плошча — пад 200 квадратных кіламетраў — меншая за Мінск толькі ў паўтара разы. Тут штогод збіраюць 500 тон журавінаў,назіраюць за сотняй відаў птушак, сочаць за дзясяткамі тысяч жураваў падчас іх міграцыі.

Паступова фармуецца брэнд балота. Ужо зараз за Мёршчынай замацоўваецца вобраз краю, дзе трэба збіраць журавіны і назіраць за жураўлямі.

— Журавы спыняюцца ў шматлікіх кропках Беларусі, але, калі спытаць чалавека, дзе ў нас паглядзець жураваў, акрамя Мёрскага краю, бадай, нічога не назавуць, — кажа Аляксандр Вінчэўскі, дырэктар грамадскай арганізацыі Ахова птушак Бацькаўшчыны (АПБ), аднаго з партнёраў праекта.

Рэалізоўваць праект па ўстойлівым развіцці ў жыцці будуць не толькі мясцовая ўлада і АПБ. Да праекта далучаны і Латвійскі сельскі форум. Па-сутнасці, падтрымка ЕС узмоцніць патэнцыял раёна ў галіне партысіпатыўнага развіцця, абновіць сацыяльную інфраструктуру. З'явяцца спартыўныя пляцоўкі, кемпінгі, вышкі па назіранні за птушкамі. У цэлым акцэнт у праекце робіцца на развіцці раёна на аснове мясцовых брэндаў «Журавы і журавіны» і балота Ельня.



Паводле сведчання дырэктара АПБ, сёння ў Беларусі каля дваццаці раёнаў маюць афіцыйны герб — птушку. Але Мёрскі — адзіны, які мае і раслінны знак: балотныя журавіны. Аляксандр Вінчэўскі спадзяецца, што журавіны як сімвал замацуюцца за Мёрамі назаўсёды.

— Такое прыроднае асяроддзе, як у Мёрскім краі, вельмі рэдка знойдзеш у свеце, — кажа эксперт у галіне ўстойлівага развіцця Алег Сівагракаў. — Бяспечных краявідаў, як азёры і балоты, па якіх можна хадзіць басанож, засталося надзвычай мала. Таму не дзіўна, што ЕС падтрымаў праект па развіцці Мёраў, раскрыццю патэнцыялу балот, новых магчымасцяў назіраць за прыродай. Еўрапейцы разумеюць каштоўнасць Ельні не толькі для Беларусі, але і для ўсяго чалавецтва. І важна, што наш праект мясцовы: менавіта на лакальным узроўні знаходзяцца рэзервы для росту. Калі ўсё зрабіць, як трэба, на Мёршчыне складзецца той самы баланс прыроды, эканомікі, сацыуму і культуры, які мы называем устойлівым развіццём. Атрымае новае дыханне і рамесніцтва, і малы бізнес.

Але варта разумець: аб'ём вытворчасці — не самае галоўнае ў сённяшнім бізнесе. Развіццё найперш адбываецца ў галовах людзей. Таму важныя інвестыцыі не ў нерухомасць, а ў чалавечы і сацыяльны капітал. Варта бачыць, што адрозніვае вас ад іншых раёнаў. А такіх жураваў ды журавінаў і такога балота больш нідзе не знайсці! Ужо па гэтай фактуры стартавыя магчымасці ў Мёраў вельмі добрыя. Але ёсць і іншыя асаблівасці. Напрыклад, азёры Набіста і Абстэрна. Калі перакладаць са шведскай мовы, першая назва азначае «новае месца». А другая — «нізкае возера». Гэта старажытныя варажскія словы, якія засталіся ў Беларусі, — кавалачак шведскай ідэнтычнасці. Які, без сумневу, зацікавіць шведскіх турыстаў.

Алег Сівагракаў прыводзіць у прыклад эстонскую выспу Сарэмаа — яна здаўна славілася сваімі млынамі. У ХХ стагоддзі гэтыя млыны былі амаль усе разбураныя. Але калі ў 1990-х гадах Эстонія атрымала незалежнасць, супольнасць выспы вырашыла, што млыны — найлепшы брэнд. Улады сталі танна прадаваць падмуркі ад былых млыноў з прапановай: будуйце, што жадаеце, — дамы, кавярні, рэстараны, музеі. Але ўсё — у выглядзе млына. Гэта было зроблена, і цяпер усе турысты едуць фатаграфавацца на фоне млыноў, якіх у адным месцы ў такой колькасці больш нідзе ў свеце няма.

Цікавіцца магчымасцямі па атрыманні фінансаў на развіццё і мёрскія аграсядзібы. Уладальнік адной з іх, Уладзімір Жабёнак, хоча зрабіць стаўку на міграцыю птушак праз Мёршчыну. А менавіта, зладзіць сажалку з рыбай, якую будуць наведваць пералётныя птушкі, каб падсілкавацца. Калі ўявіць гэта, карціна мае быць захапляльнай і цікавай для турыстаў.

Праект разлічаны на тры гады. Канчатковая мэта праекта, які падтрыманы Еўрасаюзам, — стварыць дзейсны механізм рэалізацыі стратэгіі ўстойлівага развіцця раёна, які пабудаваны на партнёрстве мясцовай улады і грамадзянскай супольнасці. А потым рэалізаваць гэту мадэль на практыцы з арыентацыяй на развіццё ініцыятыўнасці і адказнасці мясцовай супольнасці, падтрымку біялагічнай і культурнай разнастайнасці, развіцця сацыяльнай інфраструктуры і «зялёнай эканомікі».

# БагатаДата

**Вы ведаеце, што аўтар песні «Майскі вальс» («Вясна сорак пятага года») нарадзіўся ў Мінску? А калі адкрыўся самы вядомы піянерскі лагер у Беларусі? Больш цікавых фактаў — у нашым аглядзе.**

### 17 жніўня

**1629.** У замку Алеска (цяпер Львоўская вобласць ва Украіне) нарадзіўся Ян Сабескі, абраны ў 1674-м каралём польскім і вялікім князем літоўскім. Супраць яго кандыдатуры выступала кіруючая прааўстрыйская групоўка магнатаў ВКЛ на чале з Пацамі, аднак яго падтрымалі групоўкі Радзівілаў і Сапегаў. Пры Сабескім быў апошні ўздым Рэчы Паспалітай.

**1969.** На возеры Нарач у Мядзельскім раёне адкрыўся самы вядомы ў Беларусі дзіцячы адпачынкавы лагер — «Зубраня». Тады — піянерскі лагер. Цяпер — нацыянальны адукацыйна-аздараўленчы цэнтр.




### 18 жніўня

**1924.** У Мінску нарадзіўся паэт-песеннік Міхаіл Ясень. Напісаў на рускай мове вядомыя на ўвесь былы СССР песні. Напрыклад, «Майскі вальс» («Вясна сорак пятага года»). А сапраўднае імя і прозвішча паэта — Міхаіл Гольдман.

### 19 жніўня

**1954.** У Белай Царкве, што ва Украіне, нарадзіўся знаны вучоны ў галіне хіміі Алег Івашкевіч. Працаваў дырэктарам Навукова-даследчага інстытута фізіка-хімічных праблем БДУ. З'яўляецца аўтарам амаль паўсотні вынаходніцтваў, патэнтаў і навучальнага дапаможніка «Прыкладная квантавая хімія».

### 20 жніўня

**1949.** У расійскім Краснадары нарадзіўся доктар медыцынскіх навук Уладзіслаў Астапенка, уся лекарская кар'ера якога прайшла ў Беларусі, пачынаючы з Мінскага медінстытуту. Міністр аховы здароўя Беларусі ў пачатку 2000-х гадоў.

### 21 жніўня

**1904.** У Скапіне Разанскай вобласці Расіі нарадзіўся Сяргей Бірузоў, маршал, галоўнакамандуючы СПА СССР і намеснік міністра абароны. Загінуў у авіякатастрофе каля Бялграда ў 1964 годзе. У Мінску ёсць вуліца яго імя.

### 22 жніўня

**Міжнародны дзень памяці ахвяраў гвалту на падставе рэлігіі або перакананняў.**



### 23 жніўня

**Дзень памяці ахвяраў сталінізму і нацызму.**

**1939.** У Маскве наркамам замежных справаў СССР В. Молатавым і міністрам замежных справаў Германіі І. Рыбентропам падпісаны Дагавор аб ненападзе на 10 гадоў, да дагавора быў прыкладзены «Сакрэтны дадатковы пратакол», які размежаваў сферы ўзаемных інтарэсаў СССР і нацысцкай Германіі ва Усходняй Еўропе.

**1924.** У вёсцы Азяршчына Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці нарадзіўся Рыгор Лапато, вучоны-вынаходнік у галіне вылічальнай тэхнікі і інфарматыкі. Працаваў дырэктарам НДІ ЭВМ.

**1954.** У ГУЛАГу не стала беларускага нацыянальнага дзеяча Васіля Русака. Ураджэнец Случчыны, ён быў удзельнікам Першага Усебеларускага з'езду пры канцы 1917 года, браў удзел у Слуцкім паўстанні як камандзір аднаго з палкоў. Летам 1945-га арыштаваны ў Празе савецкай контрвыведкай за «антысавецкую дзейнасць у эміграцыі», прысуджаны да 10 гадоў лагераў, у якіх і памёр.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1298

Падпісана да друку 16.08.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.